ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№11 (152)
лістапад 2023 год
CATHOLICNEWS.BY

# Апостал адзінства сабраў духавенства дыяцэзіі ў Віцебску на распачацце юбілейнага года

**З 12 лістапада ў Беларусі распачаліся юбілейныя святкаванні 25-годдзя заснавання Віцебскай дыяцэзіі. Гэты дзень адметны тым, што з'яўляецца таксама ўрачыстасцю для тэрытарыяльнай адзінкі нашай краіны, бо менавіта 400 гадоў таму арцыбіскуп Полацкі Язафат Кунцэвіч праз прынятую смерць нарадзіўся для неба. Супольнасць святых узбагацілася яшчэ адным мучанікам, які праліў сваю кроў у абарону веры і праўды, вернасці Святому Айцу і адзінству Каталіцкага Касцёла. Цяпер жа св. Язафат Кунцэвіч з'яўляецца галоўным апекуном Віцебскай дыяцэзіі.**



Юбілейныя святкаванні распачаліся ўрачыстай Імшой у Віцебскай катэдры.

13 лістапада катэдральны касцёл Езуса Міласэрнага сабраў святароў і кансэкраваных асобаў на агульнадыяцэзіяльную сустрэчу са сваім ардынарыем.

Пробашч грэка-каталіцкай парафіі св. Язэпа протапрэзбітар айцец Андрэй Абламейка падчас канферэнцыі прыблізіў асобу святога, які на нашай зямлі здзяйсняў духоўныя подзвігі. Святар распавёў гісторыю атрымання з Вены рэліквій святога Язафата для Беларусі – набедраніка. Гэтую частку адзення святара ў выглядзе парчовага прамавугольніка, якая носіцца на баку ніжэй за пояс, перадаў Легат Папы Францішка арцыбіскуп Вены кардынал Крыстаф Шонбарн падчас урачыстасцяў у Будславе ў 2016 годзе.

Святую Імшу ў межах пастырскай сустрэчы цэлебраваў біскуп Алег разам са святарамі дыяцэзіі і прысутнымі грэка-каталіцкімі сабратамі з Віцебска і Мінска.

"400 гадоў таму 12 і 13 лістапада былі нядзеляй і панядзелкам адпаведна, як і зараз. У нядзелю, як сталася забойства, ні ў цэрквах, ні ў касцёлах не адбылася св. Імша, не гучалі званы, якія пазней былі знятыя, а Віцебск пазбаўлены Магдэбурскага права. А панядзелак стаў такім днём цвярозасці, калі людзі пачалі асэнсоўваць, што сталася раптам. Вядома, што пазней адбыўся працэс, паляцелі галовы, і тыя вінаўнікі забойства, хто быў асуджаны на смерць, акрамя аднаго, прынялі ўніяцтва", – падкрэсліў біскуп.

Каб зразумець, дзе шукаць адзінства паміж сабой, іерарх звярнуўся да віцебскага прэзбітэрыя з парадай пераняць ад св. Язафата:

- навучанне – "тое, што сам рабіў сярод вернікаў: напісаў катэхізіс і пад прымусам загадваў святарам чытаць яго і навучаць Божаму слову іншых";
- аскеза – "жыць у камфорце – не грэх, але, як бачым, не толькі ў асобе св. Язафата Кунцэвіча, але тых, хто дасягнуў узроўню духоўнага жыцця, адстаўлялі вельмі часта гэты камфорт, бо цела не ведае межаў, заўсёды хочацца нечага большага. Яно, на жаль, перашкаджае пошуку глыбіні Божай праўды", – зазначыў біскуп Алег.

Пазней падчас аб'яў былі прадстаўленыя анонсы запланаваных падзей на найбліжэйшыя месяцы:

**25 лістапада** – сустрэча моладзі ў Полацку;
**14 снежня** – аплаткавае спатканне духавенства ў Наваполацку;
**4 студзеня 2024 г.** – конкурс каляднай песні "Зорка Бэтлеема" ў Мёрах;
**5 студзеня 2024 г.** – конкурс батлеек у Віцебску.

З нагоды ўрачыстых юбілейных святкаванняў 25-годдзя заснавання Віцебскай дыяцэзіі, якія праходзяць у Беларусі з 12 лістапада 2023 г. па 1 снежня 2024 г., біскуп Алег Буткевіч аб'явіў аб прызначэнні пяці юбілейных святыняў і магчымасці атрымання поўнага адпусту. Пробашчам касцёлаў былі ўручаныя адпаведныя памятныя дошкі, якія будуць размешчаныя на бачным месцы, каб кожны, хто ўваходзіць у храм, ведаў, што на найбліжэйшы год гэтая святыня мае асаблівы прывілей.

***Марына Сінкевіч,** тэкст*
***Леанід Юрык,** фота*

# Прызначаныя пяць юбілейных святыняў з нагоды святкавання 25-годдзя Віцебскай дыяцэзіі




**Падчас сустрэчы святароў і кансэкраваных асобаў 13 лістапада біскуп Алег Буткевіч аб'явіў аб прызначэнні пяці юбілейных святыняў з нагоды ўрачыстых юбілейных святкаванняў 25-годдзя заснавання Віцебскай дыяцэзіі, якія праходзяць у Беларусі з 12 лістапада 2023 г. па 1 снежня 2024 г.**

Гэтымі святынямі сталі: Катэдральны касцёл Езуса Міласэрнага ў Віцебску, касцёл Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Браславе – дыяцэзіяльны Санктуарый Маці Божай Браслаўскай, касцёл святога Андрэя Баболі ў Полацку, касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў Глыбокім, касцёл святога Антонія Падуанскага ў Паставах.

Апостальская Пэнітэнцыярыя на моцы нададзеных ёй паўнамоцтваў Папам Францішкам з нагоды юбілейнага году ў дыяцэзіі надае ПОЎНЫ АДПУСТ усім вернікам любога абраду, якія сапраўды пакаюцца і выканаюць учынкі міласэрнасці. Поўны адпуст вернікі могуць атрымаць для саміх сябе, а таксама могуць ахвяраваць яго за душы вернікаў, што знаходзяцца ў чыстцы.

Для атрымання поўнага адпусту неабходна выканаць наступныя ўмовы: прыступіць да Сакраманту споведзі альбо быць у стане асвячальнай ласкі і не мець прывязанасці да граху, нават лёгкага; прыняць Святую Камунію; памаліцца ў інтэнцыях Святога Айца малітвамі Ойча наш, Вітай, Марыя, Апостальскі Сімвал Веры; наведаць з пілігрымкай юбілейныя касцёлы ў Віцебскай дыяцэзіі і там пабожна ўзяць удзел у юбілейных урачыстасцях ці прынамсі правесці там адпаведны час у малітве або пабожных разважаннях, якія завершацца Малітвай Панскай (Ойча наш), Сімвалам Веры і заклікамі да Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы Супакою і святога апекуна Язафата Кунцэвіча.

Пажылыя, нямоглыя, вязні



і ўсе, хто па сур'ёзных прычынах не можа выйсці з дому, змогуць атрымаць поўны адпуст, не маючы ніякай прывязанасці да граху, маючы намер выправіцца як мага хутчэй, выканаць тры звычайныя згаданыя вышэй умовы і духоўна далучыцца да юбілейных святкаванняў, ахвяруючы міласэрнаму Богу ўласны боль ці нязручнасці жыцця.

***Марына Сінкевіч,** тэкст*
***Кс. Віктар Місевіч,** фота*

Каталіцкі ВЕСНІК №11 (152) лістапад 2023 г.

# Вясной выйдзе новая кніга пра жыццё Папы Францішка

**“Жыццё. Мая гісторыя ў Гісторыі” – пад такім загалоўкам вясной 2024 года выйдзе ў свет кніга, у якой асабістыя падзеі з жыцця Папы пераплятаюцца з гістарычнымі падзеямі XX стагоддзя і сучаснасці.**

Кніга “Жыццё. Мая гісторыя ў Гісторыі” выйдзе ў нью-ёркскім выдавецтве HarperCollins, якое 7 лістапада анансавала публікацыю. Выданне з’явіцца ў кнігарнях шэрагу краін Еўропы і Амерыкі: Бразіліі, Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША, Іспаніі, Італіі, Канады, Мексікі, Партугаліі, Польшчы, Францыі.

**Падзеі, якія змянілі свет**

На старонках выдання Папа Францішак упершыню распавядзе гісторыю свайго жыцця на фоне гістарычных падзей, пачынаючы з Другой сусветнай вайны і да нашых дзён. Дзякуючы асабістым успамінам Святога Айца чытач здзейсніць незвычайнае падарожжа праз дзесяцігоддзі, каб прасачыць такія значныя моманты гісторыі, як падзенне Берлінскай сцяны, дзяржаўны пераварот Відэлы ў Аргенціне, высадка чалавека на Месяц у 1969 годзе і нават чэмпіянат свету па футболе 1986 года, на якім Марадона рукой Бога (la mano de Dios) забіў свой знакаміты гол.

Папа падзеліцца сваімі асабістымі ўспамінамі пра гады нацысцкага знішчэння габрэяў, атамную бамбардзіроўку Хірасімы і Нагасакі, вялікую эканамічную рэцэсію 2008 года, падзенне вежаў-блізнят у Нью-Ёрку, пандэмію, адстаўку Бэнэдыкта XVI і канклаў, які абраў яго Папам.

**Гарачыя тэмы і сюжэты бягучых падзей**

Святы Айцец таксама агучыць свой погляд на такія актуальныя пытанні, як сацыяльная няроўнасць, кліматычны крызіс, вайна, атамная зброя, расавая дыскрымінацыя і аборона жыцця. Голас Пантыфіка будзе чаргавацца з голасам аўтара Фабіа Маркезэ Рагоны, ватыканіста тэлевізійнай групы Mediaset, які ў кожным раздзеле апіша гістарычны кантэкст, у якім жыў Папа.

**Памятаць, каб не паўтараць памылкі**

У прэс-рэлізе выдавецтва HarperCollins прыводзіцца каментар Святога Айца да публікацыі: “У гэтай кнізе мы распавядаем гісторыю, гісторыю майго жыцця на фоне самых важных і драматычных падзей, якія перажыло чалавецтва за апошнія восемдзесят гадоў. Гэтая кніга выйшла ў свет, каб найперш маладое пакаленне магло прыслухацца да голасу старэйшага і паразважаць пра тое, што перажыла наша планета, каб больш не паўтараць памылкі мінулага.



Падумаем, напрыклад, пра войны, якія раздзіралі і працягваюць раздзіраць свет. Падумаем пра генацыд, пераслед, нянавісць паміж братамі і сёстрамі розных рэлігій! Колькі болю! Дасягнуўшы паўнага ўзросту, важна зноў адкрыць кнігу ўспамінаў і захаваць памяць. Вучыцца, азіраючыся назад, выяўляць тое нядобрае, атрутнае, што мы перажылі разам з грахамі, якія мы здзейснілі, але таксама ўзгадаць усё добрае, што паслаў нам Бог. Гэта практыкаванне ў распазнанні, якое мы ўсе павінны зрабіць, пакуль не стала занадта позна!”

**Апублікаваць кнігу Папы – вялікі гонар**

“Папа Францішак пражыў выключнае жыццё, стаўшы сведкам некаторых з самых вырашальных момантаў у найноўшай гісторыі. Мы з нецярпеннем чакаем магчымасці данесці яго аповед да чытачоў па ўсім свеце”, – адзначыў Браян Мюрэй, старшыня і галоўны выканаўчы дырэктар выдавецтва HarperCollins.

# Папа Францішак ахрысціў 13-е дзіця ўкраінскай сям’і

**Надзвычайная падзея адбылася ў Ватыкане 6 лістапада ўвечары. Да Святога Айца прыехала сям’я з Украіны. Яны прывезлі сваё малодшае, 13-е дзіця з просьбай ахрысціць яго. І Папа зрабіў гэта.**

Усё арганізаваў біскуп Леон Дубраўскі, пастыр Камянецкай дыяцэзіі. Ён прызнаўся, што такое жаданне ў яго было і раней, але дагэтуль не ўдавалася рэалізаваць задуманага.

“Я вырашыў, што буду хрысціць кожнае 5, 6, 7, 8, 9, 10 і 11-е дзіця, а Папа ахрысціць 12-е. І гэта ўрэшце адбылося. (…) Вы ўяўляеце, якая гэта падзея для сям’і?! Гэта такое шчасце, што амаль уся сям’я прыехала сюды! Яны назвалі дзіця Захарам Францішкам, у гонар Папы, які яго ахрысціў”, – сказаў біскуп Дубраўскі.



У інтэрв’ю Vatican News іерарх падкрэсліў, што жыццё такіх сем’яў з’яўляецца вельмі моцным знакам для іншых. “Мы шмат гаворым, а свет патрабуе сведчання, свет патрабуе сведак веры. І тое, што адбылося, – гэта сведчанне для нашых сем’яў, для краіны, для ўсіх, што трэба быць адкрытым да жыцця, нельга замыкацца ў сабе. Гэтая маці, якая нарадзіла 13-е дзіця, яна аддае сябе, не канцэнтруецца на сабе. А сёння людзі проста хочуць браць і браць – і скардзяцца (…). А тут трэба ўкладаць”, – заўважыў біскуп Дубраўскі.

# Святы Айцец паразмаўляў з Прэзідэнтам Ірана

**5 лістапада Папа Францішак паразмаўляў па тэлефоне з Прэзідэнтам Ірана Ібрагімам Раісі, – паінфармаваў кіраўнік Залы Друку Матэа Бруні, удакладняючы, што размова адбылася па ініцыятыве іранскага боку.**

Сайт Прэзідэнта Ірана паведаміў, што Раісі ацаніў заклікі Папы да спынення агню ў Газе. Гэту просьбу Святы Айцец паўтарыў падчас нядзельнай малітвы Анёл Панскі на плошчы Святога Пятра, заклікаючы таксама прыкласці ўсе намаганні, каб не дапусціць пашырэння канфлікту, дапамагчы параненым і даставіць гуманітарную дапамогу жыхарам Газы. Ён заахвоціў неадкладна вызваліць закладнікаў, падкрэсліваючы, што сярод іх шмат дзяцей, якія павінны вярнуцца ў свае сем’і.

Жыхар сектара Газа сярод руін дома, разбуранага ў выніку ізраільскага ракетнага ўдару (AFP or licensors)

30 кастрычніка сітуацыя на Блізкім Усходзе была тэмай тэлефоннай размовы паміж арцыбіскупам Полам Рычардам Галахерам – Сакратаром па адносінах Апостальскай Сталіцы з дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі – і Хасэйнам Амірам-Абдалахіянам, Міністрам замежных спраў Ісламскай Рэспублікі Іран.

Цягам апошніх дзён Пантыфік правёў перамовы адносна абвастрэння канфлікту ў Святой Зямлі з некаторымі іншымі палітычнымі лідарамі: 2 лістапада ён размаўляў з Прэзідэнтам Палесціны Махмудам Абасам, 26 кастрычніка – з Прэзідэнтам Турцыі Рэджэпам Таіпам Эрдаганам, а 22 кастрычніка – з Прэзідэнтам ЗША Джо Байдэнам.



# Ватыкан заключыў экалагічнае партнёрства з Volkswagen

**Губернатарат Ватыкана запусціў праграму развіцця ўстойлівай мабільнасці, накіраваную на скарачэнне выкідаў $CO_2$ сваім аўтапаркам.**

Для гэтага плануецца: паступова замяніць дзяржаўныя аўтамабілі на электрамабілі, каб да 2030 года зрабіць аўтапарк вуглародна-нейтральным; стварыць уласную сетку падзарадкі ў Дзяржаве і ў экстэрытарыяльных адзінках, распаўсюджваючы яе выкарыстанне на супрацоўнікаў; забяспечыць патрэбнасці ў энергіі выключна за кошт аднаўляльных крыніц.

Першым стратэгічным партнёрам у праекце стала Volkswagen Group, якая імкнецца стаць кампаніяй з нулявым выкідам вуглароду да 2050 года і скараціць выкіды вуглароду ад сваіх аўтамабіляў на 30% да 2030 года. Яна прапануе Ватыкану аўтамабілі марак Volkswagen і Škoda па формуле сярэднетэрміновай і доўгатэрміновай арэнды.

Пагадненне аб партнёрстве ў рамках праграмы развіцця ўстойлівай мабільнасці Экалагічнае пераўтварэнне 2030 было падпісана 15 лістапада 2023 года.

У адмысловым паведамленні гаворыцца, што мостам паміж экалагічнай палітыкай і ўказаннямі і рэкамендацыямі Пантыфіка стала ратыфікацыя Святым Пасадам Рамачнай канвенцыі Арганізацыі Аб’яднаных Нацый аб змяненні клімату і Парыжскіх пагадненняў.

Адзначаецца, што для дасягнення нейтралітэту спатрэбяцца інвестыцыі ў тэхналагічныя структуры з выкарыстаннем аднаўляльных крыніц энергіі, кампенсацыі выкідаў, якія ўтвараюцца ў адным сектары, за кошт іх скарачэння ў іншым, але, перш за ўсё, прасоўвання электрычнай і гібрыднай мабільнасці.

Губернатарат імкнецца да дасягнення кліматычнай нейтральнасці праз адказнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў, рэалізацыю праектаў, накіраваных на павышэнне энергаэфектыўнасці і абнаўленне сваіх тэхналагічных актываў, устойлівую мабільнасць, дыверсіфікацыю і пастаўкі больш чыстых і альтэрнатыўных энергетычных прадуктаў для транспарту, утылізацыю адходаў і распрацоўку праектаў лесааднаўлення.

*Старонка падрыхтаваная па матэрыялах Vatican News*

# Грыгорый Назіянскі

**Святы сярод святых родных і сваякоў**

Грыгорый Назіянскі – суайчыннік Базыля Вялікага. Гэтак жа, як ён, паходзіў з Кападокіі, гэта значыць, з сённяшняй Цэнтральнай Турцыі, з заможнай і вельмі пабожнай хрысціянскай сям'і. Так як і ў выпадку Базыля, з сям'і Грыгорыя паходзілі святыя. Яго маці, Нону, пры жыцці ўсе прызнавалі святой. Яна рашуча паўплывала і на выхаванне сына і навяртанне мужа, каторы потым нават стаў біскупам. Грыгорый быў першынцам, доўгачаканым, ахвяраваным Богу дзіцём яшчэ перад нараджэннем. Яго родныя – сястра Гаргонія, брат Цэзарый, а таксама стрыечны брат біскуп Амфілок – ушаноўваюцца ў Касцёле як святыя.

**Навучанне будучага тэолага**

Раннія гады Грыгорый правёў у родным горадзе, дзе з самага пачатку старанна вучыўся ў школе. Затым паступіў на вучобу ў Цэзарэю Палесцінскую, дзе пазнаёміўся з Базылём, будучым біскупам Цэзарэі Кападоцкай. Урэшце, ён адправіўся ў Александрыю, а адтуль паехаў вывучаць рыторыку ў Афіны. Менавіта ў Афінах, дзе Грыгорый ізноў вучыўся разам з Базылём, ён звязаў сябе з ім моцнымі сяброўскімі повязямі. Аказалася, што Базыль і Грыгорый падзяляюць аднолькавыя вялікія жаданні жыцця ў малітве і сузіранні, прысвячэння сябе толькі Богу, займаючыся духоўнымі справамі. Вось што праз многія гады Грыгорый сказаў у адной са сваіх прамоваў: "Афіны аб'ядналі нас, як нейкая рачная плынь, калі, плывучы з адной роднай крыніцы, разнесеныя ў розныя бакі прагай навучання, мы зноў сабраліся, быццам бы дамовіліся, бо Бог гэта зладзіў. (…) Здавалася б, што ў нас абодвух адна душа, якая падтрымлівае два целы. І калі не трэба верыць тым, хто кажа, што ўсё знаходзіцца ўва ўсім, то тым больш верыць нам, што адзін быў у другім і побач з другім. У нас абодвух была адна мэта: развіваць цноту, жыць дзеля будучых надзей і адарвацца ад гэтага свету, перш чым мы пакінем яго. Углядаючыся ў гэту мэту, мы кіравалі паводле яе сваім жыццём і ўсімі ўчынкамі, натхняючыся Божай запаведдзю, удасканальваючы адно аднаго ў цноце, і, калі гэта не занадта вялікія словы, мы былі ўзорам і нормай адно для аднаго, па якіх можна адрозніць добрае і дрэннае. Таму у той час, як іншыя маюць розныя імёны – альбо па бацьку, альбо сваё ўласнае, у залежнасці ад сваёй працы альбо дзеянняў, – мы лічылі вялікім гонарам і вялікім імем быць і называць сябе хрысціянамі".

***Сутыкненне жаданняў з рэальнасцю***

Пасля вяртання з вучобы ў Афінах Грыгорый быў ахрышчаны. Маладому чалавеку, як і яго сябру Базылю, вельмі адпавядала жыццё ў адасабленні. Пэўны час яны разам жылі ў пустэльні, якая знаходзілася на беразе ракі Ірыс у Понце, і, ведучы манаскае жыццё, адначасова займаліся духоўнымі даследаваннямі. Плёнам іх сталіся, між іншым, "Правілы" манаская жыцця Базыля Вялікага.

Аднак хутка аказалася, што яму давядзецца адкласці свае жаданні на потым. Грыгорый быў вымушаны вярнуцца ў Назіянз. Яго бацьку, што служыў у горадзе біскупам, вельмі патрэбны быў хтосьці, хто дапамог бы ў пастырскіх абавязках. Грыгорый Назіянскі зусім не меў аніякага пастырскага запалу. Яго асабліва не цікавіла святарскае служэнне і кіраванне Касцёлам. Ён выяўляў вялікую схільнасць да сузірання, навучання і малітвы. Аднак Грыгорый, насуперак гэтаму, прыняў святарскае пасвячэнне і стаў служыць пры сваім бацьку. Гэтае цяжкае для яго заданне ён пакінуў пры першай магчымасці. Грыгорый адправіўся ў свой радавы маёнтак і вёў там манаскае жыццё ў адасабленні.

Калі яго сябар Базыль Вялікі стаў мітрапалітам Цэзарэі Кападоцкай, ён быў вельмі зацікаўлены ў тым, каб згуртаваць пры сабе біскупаў-аднадумцаў. Уся справа ў тым, што яму часта даводзілася весці спрэчкі з іншымі біскупамі, перадусім вызнаўцамі арыянскай ерасі. Такім чынам, Базыль пераканаў Грыгорыя прыняць біскупскае пасвячэнне. Каб запоўніць біскупскія сталіцы сваімі людзьмі, Базыль нават стварыў новую дыяцэзію ў невялікім мястэчку пад цікавай для нас назвай Сасіма і хацеў пасладзь туды Грыгорыя. Той хоць і прыняў біскупскую сакру, але не з'явіўся ў прызначанай дыяцэзіі, а зноў сышоў у пустэльню.

Грыгорый Назіянскі доўгі час вагаўся паміж тым, каб займацца пастырскімі справамі, да чаго яго заахвочвалі родныя і сябры, і тым, каб задаволіць жаданне свайго сэрца весці малітоўнае жыццё, прысвечанае выключна даследаванню Божых таямніц. Апошняй спробай Грыгорыя выйсці насустрач тагачасным вялікім душпастырскім выклікам была яго згода на прызначэнне сябе на біскупскую пасаду ў Канстанцінопалі. Яго запрасілі туды ўзначаліць нававстораны патрыярхат. І колькі ён там пратрымаўся? Усяго некалькі месяцаў. Калі ў Канстанцінопалі быў скліканы сінод, падчас якога аказалася, што Грыгорый Назіянскі не можа сабраць вакол сябе біскупаў і належным чынам кіраваць імі, ён пакінуў сваю пасаду і ўжо назаўсёды адышоў у сваю пустэльню, дзе скончыў зямное жыццё. Аднак паколькі біскуп Грыгорый памёр у славе святасці, яго цела было перанесенае, назад у Канстанцінопаль, дзе развіваўся яго культ як святога Касцёла.

**Тэалагічная спадчына Грыгорыя Назіянскага**

Нягледзячы на тое, што Грыгорый Назіянскі не быў вялікім біскупам і не вельмі паспяхова кіраваў касцельнай супольнасцю, ён пакінуў пасля сябе найперш вялікую тэалагічную спадчыну. Вядомыя яго 45 прамоў, якія лічацца шэдэўрамі рытарычнага мастацтва. У іх ён тлумачыць вучэнне пра Святую Тройцу і абараняе боскасць Сына Божага і Духа Святога. Менавіта дзякуючы гэтым прамовам яго называюць, асабліва часта ва Усходніх Касцёлах, Грыгорыем Тэолагам.

Адна з самых вядомых яго прамоў – гэта "Апалогія ўцёкаў". Як вынікае з назвы, аўтар у ёй апраўдваўся перад бацькам і сваёй паствай, чаму ён пакінуў іх, адасобіўшыся ў пустэльні. Аднак сам твор не пра уцёкі Грыгорыя, але гэта першы ў гісторыі трактат пра святарства. Вучэнне пра святарства, уключанае ў гэты твор, паслужыла ўзорам і крыніцай для Яна Хрызастома ў напісанні "Дыялогу аб святарстве" і натхніла Грыгорыя Вялікага на рэдагаванне яго "Кнігі душпастырскіх правілаў".

Нельга абмінуць той факт, што Грыгорый Назіянскі быў адным з нешматлікіх старажытных пісьменнікаў, які пісаў паэмы і вершы. Усяго з-пад яго пяра выйшла каля 400 вершаваных твораў, самы вялікі з якіх – "Аўтабіяграфічная паэма". Аўтар адзначаў, што яго паэзія павінна была выконваць дзве функцыі. Па-першае, яго вершы мелі выхоўвадь моладзь, заахвочваючы да выканання карысных спраў. Па-другое, сваёй паэзіяй ён хацеў даказаць, што хрысціянская культура не саступае язычніцкай паводле літаратурнай формы, а наадварот, пераўзыходзіць яе прыгажосцю духоўнага зместу. Акрамя таго, Грыгорый меў намер змагацца з ерасямі, якія распаўсюджвалі сваё вучэнне праз вершы, іх уласнай зброяй, гэта значыць, паэзіяй.

**Значэнне творчасці славутага кападакійца**

Грыгорый Назіянскі аказаў вялікі ўплыў як на ўсходняе, так і на заходняе хрысціянства. Ужо ў пачатку V ст. яго творы былі вядомыя на Захадзе дзякуючы перакладам Руфіна Аквілейскага, каторы казаў, што не ведае аніводнага айца Касцёла, апроч Грыгорыя Тэолага, які б ніколі не памыліўся ў сваіх тэалагічных высновах. Геранім Стрыдонскі лічыў яго сваім кіраўніком. Аўгусцін Гіпонскі больш за дзесяць разоў цытаваў творы Грыгорыя. Грэцкая Царква бачыла ў Грыгорыі свайго галоўнага прадстаўніка, а некаторыя яго вершы і казанні ўключыла ў сваю літургію. Урэшце, Грыгорый лічыцца найвялікшым прадстаўніком хрысціянскай паэзіі да Рамана Салодкапеўца. І ўвогуле ўвесь уклад аўтара ў хрысціянскую культуру вучоныя лічаць сувымерным з тым, які ўнёс найбольш вядомы і значны айцец Касцёла – Аўгусцін.



*Кс. Павел Эйсмант*

# Беларускія іерархі прынялі ўдзел у ІІІ Малітоўным кангрэсе pro-life ў Навагрудку

**Ужо традыцыйна ў лістападзе ў Навагрудку праходзіць Малітоўны кангрэс у абарону жыцця і сям'і, адной з мэтаў якога ёсць пакаянне за грахі нашага народа супраць жыцця. Цэнтральным момантам трохдзённага трэцяга кангрэса сталася пакутная пілігрымка, якая прайшла 4 лістапада з Навагрудка ва Уселюб. Увечары гэтага самага дня пасля св. Імшы адбыўся ўрачысты акт пакаяння ў касцёле св. Архнёла Міхала, у якім удзельнічалі таксама арцыбіскуп Юзаф Станеўскі і біскуп Алег Буткевіч.**



Многія ўдзельнікі найбольш глыбока перажываюць менавіта малітоўную і пакутную часткі кангрэса, разумеючы, што мы ўсе павінны перапрашаць за грахі абортаў, кантрацэпцыі, штучнага апладнення і распусты, што адбываюцца навокал нас. Але ў гэтым годзе шмат хто, у тым ліку госці з Расіі, засталіся і на навуковую частку, прысвечаную пытанням выхавання дзяцей, у тым ліку палавога выхавання. Пра планы ўвесці ў школах курс палавога выхавання ў гэтым годзе паведаміла Міністэрства адукацыі, і менавіта таму галоўныя арганізатары кангрэса (дабрачынны фонд "Адкрытыя сэрцы" і Экспертная рада па пытаннях жыцця і сям'і пры Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі) вырашылі прысвяціць гэтаму пытанню асаблівую ўвагу. Многія ўдзельнікі кангрэса прыехалі ў Навагрудак разам з дзецьмі, таму зразумела, чаму пытанні выхавання былі вельмі актуальнымі.

Упершыню падчас кангрэса паўстала пытанне лічбавізацыі, якая ўсё больш актыўна ўваходзіць у нашае жыццё і жыццё нашых дзяцей. Добра, што напрыканцы лістапада ў Мінску адбудзецца адмысловая канферэнцыя на гэтую тэму, бо мы як католікі не можам застацца абыякавымі да новых выклікаў, каторыя свет сёння ставіць перад Касцёлам.

*Уладзіслаў Валаховіч*

# Сінод біскупаў у Рыме: якія рашэнні ён (не) прыняў

**29 кастрычніка ў Рыме завяршылася першая з дзвюх сесіяў XVI Звычайнай Асамблеі Сінода Біскупаў. На думку шэрагу назіральнікаў, гэты Сінод з'яўляецца кульмінацыяй пантыфікату Папы Францішка і ледзь не самай важнай падзеяй у Касцёле з часоў Другога Ватыканскага Сабору. Разбіраемся, што канкрэтна вырашалі на Сінодзе.**

Сінод Біскупаў быў заснаваны ў 1965 годзе з ініцыятывы Папы Паўла VI як пастаянная рада біскупаў. Эвалюцыя Сінода ішла паралельна з паступовым засваеннем рашэнняў Другога Ватыканскага Сабора. Важнай вяхой у яго змяненні стала Апостальская Канстытуцыя Episcopalis communio Папы Францішка за 2018 год. У ёй Сінод быў акрэслены не як сход біскупаў для вырашэння канкрэтнага пытання, а як працэс, у каторым пакліканы браць удзел увесь Касцёл. Менавіта ў такім ключы з 2021 па 2024 гады праходзіць Сінод на тэму сінадальнасці.

Падчас падрыхтоўкі Сінода ўсім католікам свету прапанавалі вызначыць галіны, якім Касцёл павінен надаваць больш увагі і праніклівасці. Гэтыя меркаванні (у Беларусі ў выглядзе анкетаў) былі сабраныя і абагульненыя дыяцэзіямі ды біскупскімі канферэнцыямі, пасля чаго іх перадалі на кантынентальны ўзровень. Вынікі дадзенага этапу аддалі ў Ватыкан, дзе яны ляглі ў аснову працоўнага дакумента для першай сесіі Звычайнай Асамблеі. Аўтары апісваюць яго як "дакумент не Апостальскай Сталіцы, а ўсяго Касцёла". Праўда, рэальная колькасць удзельнікаў сінадальнага працэсу далёкая ад усеагульнай.

**Гэтак, у ЗША ў ім узялі ўдзел толькі каля 700 000 чалавек, або крыху больш за 1% мясцовых католікаў.**

Апошнім этапам працэсу з'яўляецца XVI Звычайная Асамблея Сінода Біскупаў, падзеленая на дзве сесіі: першая прайшла сёлета з 4 па 29 кастрычніка, а другая запланавана на кастрычнік 2024-га. Як заяўляецца, зроблена гэта, каб больш глыбока вывучыць пытанні і пры неабходнасці нанава звярнуцца да Божага народа.

З 450 дэлегатаў Сінода толькі тры чвэрці з'яўляюцца біскупамі. Рэшту ўпершыню складаюць святары, дыяканы, законнікі і свецкія. 363 дэлегаты маюць права голасу, у тым ліку яго ўпершыню атрымалі некансэкраваныя вернікі, а колькасць жанчын з правам голасу роўная колькасці кардыналаў. Таксама ўпершыню еўрапейцы перасталі быць большасцю на Сінодзе. Як заявіў кардынал Крыстоф Шонбарн, "Еўропа больш не з'яўляецца цэнтрам Паўсюднага Касцёла", што "таксама змяняе змест і клімат Сінода".

### Праблемы і выклікі

На адкрыцці сесіі 4 кастрычніка Папа назваў мэтай Сінода "вяртанне да крыніцы, якой ёсць Езус, і на шлях Духа, каб дасягнуць усіх з Яго Евангеллем". Паводле яго, дэлегаты сабраліся не дзеля "чалавечых стратэгій, палітычных разлікаў ці ідэалагічных баталій" і не для "парламенцкага пасяджэння" ці абмеркавання "плану рэформ", але "каб разам ісці пад позіркам Езуса, Які благаслаўляе Айца і прымае спрацаваных і абцяжараных". Першым заданнем Сінода Папа назваў "перанакіраваць наш позірк на Бога, каб быць Касцёлам, каторы з міласэрнасцю глядзіць на чалавецтва. Касцёлам з'ядналым і братэрскім, які слухае і вядзе дыялог. Касцёлам, што благаслаўляе і падтрымлівае, які дапамагае тым, хто шукае Пана, які дабратворна ўзрушвае абыякавых, які дае пачатак шляхам, каб увесці людзей у прыгажосць веры. Касцёлам, у цэнтры якога знаходзіцца Бог, і каторы па гэтай прычыне не дзеліцца ўсярэдзіне і ніколі не бывае суровым знешне".

Папа Францішак папярэдзіў пра небяспеку "быцця закамянелым Касцёлам, які ўзбройваецца супраць свету і глядзіць назад; быцця прахалодным Касцёлам, які паддаецца модам свету; быцця стомленым Касцёлам, засяроджаным на самім сябе". Таксама ён заклікаў дэлегатаў не засмучаць Святога Духа "пустаслоўем і балбатнёй, шырока распаўсюджанай хваробай у Касцёле".

**Раней Святы Айцец прызнаваў пэўныя рызыкі Сінода. Гэта і фармалізм, калі рэальнае абмеркаванне можа звесціся да імітацыі і пустых размоваў, адарваных ад рэальнага жыцця.**

І спакуса пакінуць усё так, як ёсць, ці выкарыстоўваць старыя рашэнні для новых праблемаў. З іншага боку, існуе пагроза скаціцца ў "чысты парламентарызм" і "касцельны папулізм".

Адным з самых гучных выклікаў стаў сінадальны працэс з Нямеччыны, дзе выступілі за шлюб святароў, жаночае святарства і за тое, каб перастаць лічыць грахоўным сэкс у аднаполых адносінах. Гэта нават спрычынілася да магчымасці расколу з Ватыканам.

Перад пачаткам першай сінадальнай сесіі генеральны дакладчык Сінода кардынал Жан-Клод Олерыш перасцярог ад занадта вялікіх чаканняў ад яе. Паводле яго, ключавыя для Нямеччыны пытанні ў іншых краінах "менш пажаданыя". Ён адзначыў, што "Касцёл павінен будзе знайсці адказы на гэтыя пытанні. Але не ўсё падчас гэтага пасяджэння".

Генеральны сакратар Сінода кардынал Марыё Грэх заўважыў, што "сёння Касцёл знаходзіцца на раздарожжы", а выклік, каторы стаіць перад ім, не мае "тэалагічнай ці эклезіялагічнай прыроды", а датычыць таго, "як у гэты гістарычны момант гісторыі Касцёла ён можа стаць знакам і прыладай любові Бога да кожнага чалавека".

У сваю чаргу кардынал Блэйз Супіч з Чыкага заклікаў католікаў не верыць у тое, што сход можа "радыкальна змяніць вучэнне і практыку Касцёла". А французскі біскуп Мацье Ружэ нават параіў не надаваць Сіноду залішняй важнасці, бо "асноватворнымі ў жыцці Касцёла з'яўляюцца смерць і ўваскрасенне Хрыста, а таксама дасягненні вялікіх экуменічных сабораў, якія структуравалі гісторыю абвяшчэння веры, і, несумненна, сведчанне святых".

Кардынал Шонбарн параўнаў Сінод з апостальскімі часамі, калі перад абліччам новых пытанняў вучням Хрыста было неабходна выслухаць розныя досведы і распазнаць правільнае рашэнне з увагай да таго, што кажа Святы Дух. На яго думку, сінадальнасць у жыцці Касцёла звязана з пошукам аднадушнасці, але не ў сэнсе аднолькавага галасавання, як пры дыктатурах, але ў прагненні еднасці, у слуханні Святога Духа пры пошуку праўды і дабра, што вядзе да аднадушнасці. Ён таксама заклікаў не забываць, што Сінод – гэта толькі дарадчы орган.

Апеляваў да Святога Духа і кардынал Олерыш, які заклікаў удзельнікаў адкрыць свае сэрцы, каб "Бог Айцец праз Святога Духа прывёў нас у камунію з укрыжаваным і ўваскрослым Хрыстом". Паводле яго, не важная прыналежнасць да прагрэсістаў ці кансерватараў, а важна "знайсці спосабы выказаць новыя ідэі, якія дае Святы Дух".

Аднак арцыбіскуп Сіднэя Энтані Фішэр перасцярог ад таго, каб "ускладаць адказнасць за ўсё на Духа Святога". Паводле яго, калі якаянебудзь прапанова Сінода "радыкальна супярэчыць" Евангеллю і апостальскай традыцыі, "яна не зыходзіць ад Духа Святога, бо мы не можам уявіць сітуацыі, калі Хрыстус і Дух Святы змагаюцца адно з адным". На яго думку, больш важна абмеркаваць тое, што моладзь існуе цалкам без рэлігіі, чым магчымасць "0,001% жанчын" быць дыяканэсамі. У іерарха таксама выклікаў "сур'ёзныя тэалагічныя пытанні" сам Сінод, які ён назваў "гібрыдам" Сінода Біскупаў і іншых тыпаў касцельных асамблей і сустрэч.



У сваіх разважаннях, скіраваных да ўдзельнікаў Сінода, амерыканскі арцыбіскуп Чарльз Шап'ю заклікаў кіравацца наступнымі прынцыпамі і ў наступным парадку: "Вернасць Езусу Хрысту, Касцёлу і Святому Айцу". Паводле яго, самыя складаныя праблемы сучаснага Касцёла звязаныя не са структурамі, а з тым, што чалавек успрымае сваё цела толькі як прыладу для ўласных жаданняў. Ён заклікаў не трапляць у памылкі свету, бо Езус быў укрыжаваны менавіта таму, што не дастасоўваўся, а "даў сведчанне свайму Айцу".

### Што ў выніку абмеркавалі?

Выніковы дакумент Сінода быў апублікаваны 28 кастрычніка пад назвай "Сінадальны Касцёл у місіі". Кожны параграф уключае пункты, па якіх была дасягнутая згода, пытанні, каторыя патрабуюць вырашэння, і прапановы. Гэта "пераходны" тэкст, некаторыя яго моманты патрабуюць удакладнення і абмеркавання падчас наступнага этапу Сінода ў кастрычніку 2024 года.

Дакумент прызнае, што само паняцце "сінадальнасць" з'яўляецца "невядомым многім чальцам Божага народа" і "выклікае некаторыя непаразуменні і хваляванні". У ім адзначаецца патрэба развіцця канцэпцыі сінадальнасці як спосабу быцця Касцёлам, што выражае камунію, місію і ўдзел, уключае ў сябе дыялог, цэніць адметнасці, спрыяе актыўнаму ўключэнню ўсіх і сумеснай адказнасці. Падкрэсліваецца неабходнасць "зразумець прычыны супраціву сінадальнасці з боку некаторых" чальцоў Касцёла.

Значная частка дакумента прысвечаная бедным, клопат пра якіх для Касцёла названы "тэалагічнай катэгорыяй". Да такіх людзей належаць мігранты, прадстаўнікі карэнных народаў, асобы з залежнасцямі, меншасці, пажылыя людзі, работнікі, якія падвяргаюцца эксплуатацыі, "дзеці ў матчыным улонні і іх маці". Удзельнікі Сінода пажадалі, каб Касцёл выкрываў несправядлівасць з боку людзей, урадаў і прадпрыемстваў, а вернікі актыўна ўдзельнічалі ў палітыцы, дзейнасці асацыяцый, прафсаюзаў і народных рухаў. Падкрэсліваецца важнасць "працэсаў пакаяння" і "аздараўлення памяці" ў стасунках з іншымі хрысціянскімі канфесіямі.

Другая частка дакумента датычыць актыўнага ўдзелу ўсіх ахрышчаных у жыцці Касцёла. Падкрэсліваецца, што свецкія вернікі і кансэкраваныя асобы, а таксама пасвячоныя служыцелі "маюць роўную годнасць". Уклад свецкіх у Касцёл называецца "неад'емным". Свецкія не павінны ігнаравацца, выкарыстоўвацца ці клерыкалізавацца.

Удзельнікі Сінода заклікалі да "дыялогу паміж мужчынамі і жанчынамі" ды папрасілі "працягваць тэалагічныя і пастырскія даследаванні па пытанні доступу жанчын да дыяканату" і цэлібату.

**Таксама дакумент закранае пытанні "палавой тоеснасці і сексуальнай арыентацыі, заканчэння жыцця, складаных сужэнскіх сітуацый, праблем, звязаных са штучным інтэлектам".**

### Паміж надзеяй і катастрофай

У сваёй гаміліі 29 кастрычніка на заканчэнне першай сесіі Сінода Папа прызнаў, што "сёння мы не бачым поўнага плёну гэтага працэсу". Але, дадаў ён, "з прадбачлівасцю можам глядзець на гарызонт, які адкрываецца перад намі: Пан будзе весці нас і дапаможа нам быць больш сінадальным і місійным Касцёлам, які шануе Бога і служыць жанчынам і мужчынам нашага часу". Святы Айцец падкрэсліў, што "не бывае любові да Бога без уключэння ў клопат пра бліжняга, у адваротным выпадку нам пагражае фарысейства".

У інтэрв'ю італьянскаму тэлеканалу RaiUno Папа назваў вынікі Сінода добрымі. Што датычыць пасвячэння жанчын, то, паводле яго, "існуе тэалагічная праблема, а не адміністрацыйная". А вось у пытанні цэлібату няма якраз тэалагічнай праблемы, бо "святары ў каталіцкіх Усходніх Цэрквах могуць жаніцца". Але, на яго думку, скасаванне абавязковага цэлібату не вырашыць існых пытанняў, "бо праблема ў іншым".

⇒

⇐ Прадстаўнік Беларусі біскуп Аляксандр Яшэўскі ў інтэрв'ю Vatican News назваў эфектыўным новы фармат дзейнасці Сінода. Гэта, мяркуе ён, той шлях, па якім павінен ісці Касцёл. Таксама біскуп лічыць магчымым ужо цяпер актывізаваць працу парафіяльных радаў, "якія існуюць часта фармальна", ды павялічыць ролю жанчын.

Як мяркуе рэдакцыйны дырэктар Vatican News Андрэа Тарніелі, рашэнні Сінода нясуць нямала важных пасланняў у далейшым паглыбленні разумення Другога Ватыканскага Сабора адносна адзінага паклікання ўсіх ахрышчаных. Паводле яго, Сінод стане зернем надзеі, калі Касцёл перастане дзейнічаць паводле дасаборавых катэгорый, калі біскупы і святары прымаюць рашэнні ды пачне глядзець "позіркам самога Езуса на кожнага мужчыну і жанчыну, з іх мізэрнасцю, грахом".

У сваю чаргу былы англіканскі біскуп Гэвін Эшэндэн, які ў 2017 годзе навярнуўся ў каталіцтва, на старонках Catholic Herald скептычна паставіўся да вынікаў Сінода. На яго думку, там "выкарыстоўваўся новы від багаслоўскай мовы", каб "аблегчыць эвалюцыю ў новы тып Касцёла", дзе "збаўленне было замененае палітыкай і тэрапіяй". Эшэндэн параўнаў сінадальны шлях Касцёла з тым, што за апошнія 50 гадоў прайшлі англіканскія цэрквы ў ЗША і Вялікабрытаніі, каторыя таксама прыслухоўваліся да "духа".

"Англіканам не ўдалося вызначыць, што яны маюць на ўвазе пад "духам", гэтак жа, як чальцы нядаўняга Сінода абмяркоўвалі гэтае паняцце, як быццам яно павінна было адхіліць усю крытыку ці выратаваць іх ад далейшай адказнасці за вывучэнне таго, што яны мелі на ўвазе пад словам "дух"… Традыцыйнае хрысціянства, з іншага боку, заўсёды надавала вялікую ўвагу здольнасці адрозніваць розных духаў", – заявіў журналіст.

На яго думку, каштоўнасці Сінода супярэчаць каштоўнасцям апостальскага Касцёла. І цяперашні Сінод – "гэта толькі пачатак працэсу", каб "не пужаць ахвяру занадта рана".

Яшчэ больш рэзка выказалася брытанская каталіцкая журналістка Джэйн Смітс. Паводле яе, Сінод перастаў быць Сінодам біскупаў, калі "свецкія людзі атрымалі права голасу". "Гэта рэвалюцыя, што прынцыпова адмаўляецца ад вызначэння Касцёла як містычнага цела Хрыста, каб разглядаць яго як… новую царкву", – заявіла яна.

Чым жа ў выніку стане гэты Сінод – надзеяй ці катастрофай для Касцёла, – можна будзе пабачыць ужо праз год, калі мае афіцыйна завяршыцца цяперашні сінадальны шлях.

*Мечыслаў Гапановіч*

# Капліčка святога Язафата ў Глыбокім

**Сёлета 12 лістапада споўнілася чатырыста гадоў з дня пакутніцкай смерці святога Язафата Кунцэвіча, апекуна Віцебскай дыяцэзіі. На працягу некалькіх стагоддзяў часткай краявіду Глыбокага была капліčка святога Язафата, таму самы час пра яе ўзгадаць.**

**Святы Язафат Кунцэвіч. Гравюра XVII ст.**

Капліčка стаяла пры дарозе з Глыбокага ў Беразвечча, на правы бок ад дарогі. Цяпер там падворак дома, які мае адрас Савецкая, 114, а на месцы капліčкі засталося ледзь бачнае зарослае хмызняком узвышша, на якім можна ўбачыць кавалкі старой цэглы. Апісанне капліčкі было надрукаванае ў 1931 годзе ў часопісе "Ziemia Dziśnieńska", які выдавалі вучні гімназіі імя Люблінскай уніі ў Глыбокім: *"Гэтая прыдарожная капліčка мае наступныя памеры: даўжыня – 4,2 метры, шырыня – 4,14 метраў, вышыня – 4,2 метра. На даху, крытым бляхай, вышынёй 1,5 метра, стаіць жалезны крыж вышынёй 1,5 метра. У капліцу вядуць драўляныя штакетныя дзверы, 2,3 метра вышыні і 2,3 метра шырыні, над якімі знаходзіцца жалезная аконная рама з шыбамі, памерамі 40х30 см. Першапачатковы выгляд капліčкі быў зусім іншы: мела яна адну тыльную сцяну з паглыбленнем, вышынёй 2 метры, і дзве бочныя сцяны, вышынёй 1 метр, закончаныя двума калонамі, на якія абапіраўся дах. Насупраць дзвярэй, пры тыльнай сцяне, стаіць алтар вышынёй 1 метр, за якім у нішы павешаны абраз Маці Божай Чанстахоўскай ў чорнай драўлянай раме памерам 40х30 см. Над абразом павешаны драўляны крыж з фігурай Пана Езуса, памерам 1 метр. Даўней на гэтым месцы была фігура святога Язафата, пад тытулам якога была гэтая капліца фундаваная".*

**Капліčка святога Язафата. Фота Генрыка Віньчы, каля 1900 г.**

З узнікненнем капліčкі звязанае паданне. Быццам бы ваявода мсціслаўскі Язэп Корсак, калі засноўваў у Беразвеччы кляштар базыльянаў, а ў Глыбокім – кармелітаў босых, запісаў у тэстамэнце, што аддае тысячу валок таму кляштару, у якім спачне ягонае цела. І базыльяне быццам бы выкралі ягонае цела ад кармелітаў, а кармеліты даганялі, і па дарозе ўзнікла бойка, у якой загінуў адзін з манахаў, і на тым месцы паставілі капліčку. Гэтае паданне не адпавядае рэчаіснасці. Тэстамэнты Язэпа Корсака захаваліся ў архівах, і ў іх няма ўмовы пра "тысячу валок" для кляштара, у якім спачне цела фундатара. Простыя люд, які не разумеў падзей, што адбываліся ў вышэйшых сферах грамадства, дадумляў свае фантастычныя версіі. Асабліва часта паданні ўзнікалі, калі трэба было патлумачыць даўнія падзеі. Да фантазій належыць залічыць і аповеды пра падземны ход, што быццам ідзе з Глыбокага ў Беразвечча.

Праўдай жа ёсць, што капліčка святога Язафата стаяла на мяжы двух маёнткаў – Глыбокага, які належаў кляштару кармелітаў босых, і Беразвечча, што належала грэка-каталіцкаму ордэну базыльянаў. Верагодна, капліčку паставілі базыльяне, бо святы Язафат Кунцэвіч сам быў базыльянінам. Час яе будаўніцтва невядомы, але барочныя рысы наводзяць на думку, што яна магла паўстаць у той самы час, што і царква, і кляштар у Беразвеччы (1756-1763 гады). У старых дакументах капліčка ўзгадваецца толькі аднойчы: у 1851 годзе расійскі землямер апісвае мяжу маёнтка Глыбокае і ўзгадвае як арыенцір "памятнік" пры дарозе на Беразвечча.

Фігура святога Язафата была страчаная яшчэ ў XIX стагоддзі. Магчыма, гэта здарылася ў 1839 годзе, калі ў выніку скасавання Уніі кляштар у Беразвеччы перайшоў у рукі праваслаўнага духавенства. Апавядалі, што фігуру ўтапілі ў возеры, але невядома, ці праўда гэта. Капліčкай доўгі час ніхто не апекаваўся, і на фотаздымку пачатку XX ст. мы бачым яе ў паўзруйнаваным выглядзе. Каталіцкая парафія збіралася ўпарадкаваць капліčку. Архітэктар Антоні Філіповіч-Дубовік, які праектаваў перабудову ў 1902-1908 гг касцёла Святой Тройцы, склаў каштарыс рамонту капліčкі. Ён меўся каштаваць 400 рублёў, але спачатку парафіяне сабралі толькі 100 рублёў. Рамонт адкладваўся, а тым часам пра капліčку ўспомніла праваслаўнае духавенства, якое звярнулася да ўладаў. Тыя ў 1911 годзе пастанавілі, што капліčка належыць беразвецкаму манастыру, і манахіні распарадзіліся ее адрамантаваць. 24 чэрвеня 1912 года капліčку асвяцілі праваслаўныя святары ў прысутнасці вялікай колькасці народу. Зразумела, што выява святога Язафата ў капліčку не вярнулася.

Пасля заняцця Глыбокага польскімі войскамі ў 1919 годзе каталікі забралі сабе былую грэка-каталіцкую царкву ў Беразвеччы. Польскія ўлады змусілі праваслаўных манахінь пакінуць Беразвечча. Тады ўжо глыбоцкія каталікі занялі і капліцу святога Язафата, замянілі візантыйскі крыж на лацінскі, а ўнутры змясцілі абраз Маці Божай Чанстахоўскай.

*"Капліца, як я памятаю, была невялікая і простая. Унутры знаходзіўся крыж і дзве лавачкі, дзверы былі каваныя з жалеза. На самым версе размяшчаўся крыж, які было відаць здалёк,* – расказвала ў 2008 годзе глыбачанка Яніна Хромава. – *Калі з Глыбокага ішла пілігрымка ў Удзела на фэст Святога Антонія (13 чэрвеня) або ў Беразвечча на свята Пятра і Паўла (29 чэрвеня), то ля капліцы мы спыняліся. Адбывалася кароткая малітва, усе адпачывалі і ішлі далей. Да гэтай капліцы з намі ішоў глыбоцкі ксёндз, а вось адтуль ён вяртаўся ў горад. Пробашчам у Глыбокім у той час быў кс. Антоній Зянкевіч. Ён часта прыходзіў да гэтага месца, маліўся і вяртаўся дадому".*

Капліčка была разбураная пасля Другой сусветнай вайны. Па ўспамінах старажылаў, у 1958 годзе яе разабраў на цэглу мясцовы жыхар, а атэістычныя ўлады гэтаму не перашкаджалі. Варта было б аднавіць капліčку святога Язафата, бо яна была не толькі сакральным аб'ектам, але і помнікам гісторыі, што нагадваў пра прысутнасць на Глыбоччыне базыльянаў, а таксама пазначаў мяжу глыбоцкага і беразвецкага маёнткаў.

*Кастусь Шыталь*

**Капліčка святога Язафата. Фота Аляксандра Казіцкага, 1930 г.**

*Заўвага.*

Падчас падрыхтоўкі гэтага артыкула я перачытваў згадкі пра капліčку святога Язафата на старонках старой прэсы. У 1912 годзе мясцовы карэспандэнт газеты "Kurjer Litewski" зрабіў кс. пробашчу Даніэлю Буйвісу закід, што той занядбаў аднаўленне капліčкі і што не павёў да яе працэсію на свята Божага Цела. Кс. Буйвіс даслаў ліст у рэдакцыю, просячы напісаць абвяржэнне: "на Божае Цела ў мінулым годзе, як і ў папярэднія гады, кс. Буйвіс вёў працэсію да помніка святога Антонія". Тое, дзе быў "помнік", а дакладней, капліčка святога Антонія, мне ўдалося даведацца летась. (Гл. "Каталіцкі Веснік" №10, кастрычнік 2022 г.). Мураваная капліčка з пустой нішай стаіць на могілках Копцеўка бліжэй да вуліцы Горкага. На старых здымках відаць, што ў ёй была фігура святога Антонія. Вось да гэтай капліčкі і хадзілі глыбоцкія вернікі з працэсіяй на свята Божага Цела. Могілкі тады не даходзілі да самай вуліцы, і было месца, каб спыніцца для малітвы.

Гаворачы пра пачатак XX ст, варта памятаць, што капліца святога Іллі на Копцеўцы ў той час, з 1865 да 1921 гг, знаходзілася ў руках праваслаўных. А самі каталіцкія працэсіі былі забароненыя на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў і сталі магчымымі толькі пасля 1905 года, калі ў выніку рэвалюцыі царскія ўлады зменшылі ўціск грамадства і Касцёла.

**Былая грэка-каталіцкая царква Нараджэння Багародзіцы ў Беразвеччы. У міжваенны перыяд- касцёл святых Пятра і Паўла. Фота з калекцыі аўтара.**

# Апеляцыя да мясцовых аўтарытэтаў – гэта ніша, якая вельмі дапаможа



**Некалькі месяцаў таму кс. Раман Суша абараніў у Грыгарыянскім універсітэце доктарскую дысертацыю. На працягу апошніх гадоў святар даследаваў тэрміналогію расійскага праваслаўнага тэолага св. Тэафана Пустэльніка. Навошта гэта сёння? Што такое даследаванне дае нам, сучаснікам? Мы разабраліся – усё сапраўды актуальна. Там і пра канфлікт Украіны і Расіі, і пра сучасныя грамадствы Усходняй Еўропы, пра нашы балячкі і візіі шляхоў выйсця.**

**– Адкуль такая цікавасць да навуковай працы св. Тэафана Пустэльніка? Чым ён уразіў асабіста Вас?**

– Св. Тэафан уразіў мяне тэрміналогіяй. У той час філасофія ў Расійскай імперыі была забароненая, а таму багасловаў рыхтавалі не паводле традыцыйнага вывучэння: спачатку – філасофія, а пазней – тэалогія. Прыйшлі перамены. Філасофія была заменена псіхалогіяй і ўся папярэдняя тэрміналогія аказалася замененая псіхалагічнымі тэрмінамі. Таму Тэафан быў адным з першых, хто рыхтаваў будучых багасловаў не на аснове філасофіі, а на аснове псіхалогіі.

**– Асабіста мяне ўразіла тое, што св. Тэафан пасля сямі гадоў служэння біскупам сам папрасіўся на пакой. І рэшту жыцця правёў фактычна ў адасабленні ў манастыры. А якія яшчэ факты маглі б ахарактарызаваць яго?**

– Тэафан меў рысу суб'ектнай асобы. Гэта значыць, ён меў моцную здольнасць захоўваць увагу ўнутры сябе і не залежаць ад меркавання іншых асобаў. Гэта чалавек, які мог ісці супраць стандартаў. Чаму ён важны для сучаснасці? Таму што гэта чалавек, у якога няма жадання размаўляць тыпам рэфлекта (прыклад рэфлекторнай камунікацыі – гэта агрэсіўная рэакцыя на крытыку з узняцем голасу). Ён быў мысляр, унутраным узростам мацнейшы за прадстаўнікоў мясцовай супольнасці. Ён суб'ектна выступаў супраць таго, што бачыў у сваім асяроддзі. Тэафан быў кімсьці, каго пабіблейску можна назваць "хвала". "Хвала" – гэта цяжар, які скіроўвае на сябе зацікаўленасць.

**– А можаце растлумачыць, што такое быць "хвалою" на нейкім прыкладзе?**

– Паколькі "хвалой Бога з'яўляецца чалавек жывы" (св. Ірэнэй), то сам чалавек становіцца лёгкім цяжарам для іншых (пар. Мц 11, 30), лаўцом увагі іншых (пар. Мц 4, 19). Часам гэтая ўвага – варожая, але нават праслед – гэта ўсё роўна ўвага (пар. Мц 5, 11). Што дапамагае такую форму выпрацаваць? Мне здаецца, у Тэафана ёсць адказ на гэтае пытанне.

Справа у тым, што Пустэльнік праўляў да сябе, як ён сам пісаў, бязжаласлівасць. То бок, нягледзячы на выгоды, якія ў яго былі, да сябе ён не дапускаў самамарнавання і бяздзейнага жыцця. Такія людзі – рэдкасць, і яны вельмі заўважальныя нават за зачыненымі дзвярыма. Натуральна, бязжаласлівая пастава аўтаматычна раздражняе тых, хто так не жыве, але ўнутры адчувае, што гэта – больш "праўдзівае" жыццё, чым марнаванне гадоў на зямлі. Інакш кажучы, такі прыклад "хвалы" падсвечвае (пар. Мц 5, 14) цені іншых.

А цяпер звернемся да тэрмінаў. Бязжаласлівасць супрацьпастаўляецца жалю. І тут не гаворыцца пра тэалагічны "жаль" (напр., жаль за грахі). Хутчэй, мова ідзе пра самажаленне і самаплач, якія з'ядаюць маю "хвалу" быцця сутворчым і супрацоўнікам з Богам. Іншымі словамі, замыкае чалавека ў сваім самабічаванні. Нярэдка мы выкарыстоўваем жаль або літасць у сэнсе, каб кагосьці (або сябе) пашкадаваць, але на справе такі падыход пераважна нішчыць. Як правіла, жаль выяўляцца ў пасіўнай пазіцыі і заніжаннай самаацэнцы, што стрымліваюць ад прыняцця актыўных крокаў для змены сваёй сітуацыі, і часта дазваляе іншым сабою маніпуляваць. Тэафан аднойчы напіша, што жаль вядзе да маркоты, г. зн., да суму і нуды (гр. ἀκηδία).

Лекі ад гэтай паставы – бязжаласлівасць. Паводле Тэафана, гэта праактыўная пазіцыя, што прыводзіць жыццё да здаровага парадку. Такую з'яву ён згадвае каля сотні разоў. У суправаджэнні людзей на жыцці бязжаласлівасць вучыць здаровым межам, з аднаго боку, і здаровай любові да сябе, з іншага.

Увогуле Тэафан "грузіў" сваіх студэнтаў такімі тэрмінамі, і я думаю, не ўсе яго разумелі. Нават сёння складана чытаць такую тэрміналогію, бо трэба быць і псіхалагічна, і тэалагічна падкаваным. У псіхалогіі падобным тэрмінам да бязжаласлівасці выступае асертыўнасць.

**– Я чытаў, што св. Тэафан прадказаў рэвалюцыю ў Расіі. Прапаноўваў меры, як яе прадухіліць. Распавядзіце пра яго стаўленне да грамадскіх справаў.**

– Я думаю, што калі б людзі ва Усходняй Еўропе прачыталі хаця б 10-20% яго прац, то шматлікіх смутных наступстваў можна было б пазбегнуць. Ён прапаноўваў лекі – патрабаванні да самога сябе і свой унутраны рост. Гэта тое, што св. Ян Павел II акрэсліў як патрабаванне ад сябе, нават калі іншыя ад нас гэтага не патрабуюць, – гэта заходняя бязжаласлівасць.

Тэафан запрашаў людзей станавіцца ў метапазіцыю (кажучы сучаснай мовай) – то бок, вышэй за любыя погляды ці грамадскія канструкты дзякуючы здольнасці скіраваць увагу да "духу дзейнасці", а не да самой дзейнасці (гл. яго кнігу "Шлях да збаўлення"). У любых структурах грамадства мы сустракаем свае канструкты, то бок, нейкія ідэі, якія маніпулююць і вядуць да мэты важнай для таго, хто маніпулюе. Таму Тэафан заахвочваў станавіцца ў метапазіцыю, глядзець на ўсё з вышыні птушынага палёту. Яму было зразумела, да чаго вядуць канструкты і настрої ў грамадстве. Тэафан быў старэйшы за юнгаўскаю тэорыю калектыўнага несвядомага, але ён спакойна выпрацаваў сваю ўласную тэорыю "састрасція" (сімпатыі), пра што я і пісаў доктарскую. На жаль, здольнасць выйсці ў метапазіцыю – гэта здольнасць не для сярэдняга псіхалагічна чалавека.

**– Метапазіцыя ў сучасным свеце неверагодных тэхнік маніпулявання ў медыях выглядае складанай задачай...**

– Паняцце "свой-чужы" – гэта цэнтральны момант для любой інфармацыйнай вайны. Тэафан Пустэльнік, як і многія аўтары таго часу ў гэтым рэгіёне, быў і застаецца аўтарытэтам. А апеляцыя да класікаў, каторыя да гэтага з'яўляюцца святымі, заўжды больш эфектыўная, чым апеляцыя да класікаў з іншага рэгіёна. Таму зварот да лакальных аўтарытэтаў – гэта магчымасць абысці абаронныя механізмы людзей і дабіцца больш адэкватнага ўспрыняцця інфармацыі. Гэта натуральна: для беларусаў больш аўтарытэтнымі будуць нашы пісьменнікі, паэты, філосафы, святыя.

**– На фоне вайны ва Украіне любыя згадкі пра Расію ў пазітыўным ключы нярэдка ўспрымаюцца хваравіта. Скажыце, што могуць унесці ў сучасныя грамадскія дэбаты вынікі Вашага даследавання?**

– Уявіце сабе звычайнага італьянца, які раніцай п'е капучына, ідзе на працу, падчас абеду глядзіць нейкую перадачу ці навіны і пасля вячэры кладзецца спаць. І так кожны дзень. Які будзе яго погляд на адносіны Расіі і Украіны? Што ён ведае і разумее пра наш рэгіён, пра Беларусь, пра напружанасць у нашым рэгіёне? Звычайны італьянец дэзарыентаваны – то бок, у яго няма арыенціраў. Для таго каб зрабіць хоць нейкія суджэнні, не кажучы ўжо пра вывады ці візію, трэба мець інфармацыю. А якая якасць інфармацыі можа быць у чалавека, каторы не даследуе гэта на прафесійным узроўні?

З іншага боку, чалавек, каторы перажывае выклікі, – вельмі лімітаваны. Як выйсці ў метапазіцыю вайскоўцу-афіцэру ці чалавеку, што страціў усю сям'ю, у якога посттраўматычны сіндром і якога ўвогуле трэба суправаджаць медыкаментозна? Паспрабуй палюбіць ворага... Гэта рана бараць-бы застанецца надоўга. Таму метапазіцыя – гэта пастава для кожнага, хто шукае арыенцір маяка ў вірлівым моры.

Таму апеляцыя да мясцовых аўтарытэтаў – гэта ніша, якая вельмі дапаможа. Уявім сабе ў якасці спаведніка хрысціянскі Касцёл, а ў вобразе таго, хто спавядаецца, – краіну. Любую краіну канфлікту. Уявім, што да цябе прыходзіць спавядацца такі чалавек. Да цябе прыходзіць не толькі як да суддзі, але і як да "палявога шпіталя пасля бітвы" (Папа Францішак). Што ты яму зробіш? Можна крычаць і абвінавачваць, а можна дыягназаваць раны, каб асвятліць яго цень і яго страхі, яго цёмныя архетыпы. Таму апеляцыя да яго гісторыі, да яго жыцця важная.

Таму і апеляцыя да працы Тэафана Пустэльніка з'яўляецца вельмі дарэчным і дакладным тэрапеўтычным падыходам. Хоць сёння больш шае пытанне не ў тым, якімі метадамі асвятляць цені ("як"), а "хто" будзе тым суб'ектам, асобай, каго будуць слухаць.

**– Хто можа быць сёння такім суб'ектам у канфлікце паміж Расіяй і Украінай?**

– Пра прызму падзелаў "свой - чужы" чалавек будзе адкрыты толькі на свайго. Сёння, аналізуючы праекты міру, на жаль, можна канстатаваць, што мы не навучыліся будаваць мір. Працяглыя эфекты міру не наступаюць, гэта замарозка. Неабходны той, хто прапануе "візію".

Сёння час крызісу лідараў (пар. Эр 14, 18). Аднак такім суб'ектам з візіяй мог бы быць чалавек, які выступае ў тэрапеўтычнай пазіцыі, працуючы над унутранай трывожнасцю чалавека. Такі прарок верыць і бачыць у людзях унутранае святло, ведучы індывіда як бы "з нутра". У нашым рэгіёне "педагогіка", на жаль, разрывала сувязь з сабою, ведучы як бы "пабрыгадзірску": заўсёды быў хтосьці іншы, хто ведаў лепш, як нам жыць, а мала хто вучыў слухаць сэрца і сумленне больш, чым людзей (пар. Дзеі 4, 19; Пс 1, 1-2). У большасці псіхалагічны стан нагадвае ўнутраны сямейны развод, ды яшчэ і з ранай кантролю. Такую сістэму знешняга кантролю глыбока прапісаў філосаф Мішэль Фуко. І сёння мала ёсць праектаў, філасофскіх візій свету, якія б перамаглі такую сістэму кантролю на ўсіх узроўнях. Гэты канструкт кантролю як вірус: ён можа заражаць нават рэлігійныя супольнасці. Знешне мы можам перадагаварыцца і змяніць адказных брыгадзіраў. Пытанне вырашыцца толькі ў суб'ектным росце чалавека "з нутра". Тэафан якраз і займаўся "нутром": пастараўся максімальна дакладна апісаць унутраныя станы і схільнасці сэрца. А ведаючы свой унутраны "мікракосмас" (св. Максім Вызнаўца) або сваю ўнутраную кухню, будзеш асвячаць і цені іншых: "Бо калі хто не ўмее кіраваць уласным домам, як жа зможа клапаціцца аб Касцёле Божым?" (Цім 3, 5).

**– Калі Вы гэта гаворыце, мне адразу прыгадваюцца выказванні Папы Францішка, якія выклікалі шмат абурэння ў медыях. Напрыклад, яго зварот да расійскай моладзі, калі ён заклікаў іх "не забываць сваю спадчыну" і заставацца "нашчадкамі вялікай матухны-Расіі". Гэта была тэрапія?**

– Напэўна, такое пытанне варта задаваць папскаму прэс-сакратару. Я магу сказаць толькі павярхоўна, што Папа апелюе да нейкіх аўтарытэтаў ці праектаў з катэгорыі "свае". Вядома, што тут не было б сэнсу апеляваць да "нейтральных" аўтарытэтаў з Аргенціны, Лацінскай Амерыкі ці Італіі – гэта не працуе. Калі ты выступаеш у тэрапеўтычнай пазіцыі, ты апелюеш да ўнутраных праектаў, нават калі яны не самыя ўдалыя, то бок, да меншай шкоды. З іншага боку, гэта апеляцыя да "свайго" для другога боку будзе апеляцыяй да аўтарытэту ворага. Таму з псіхалагічнага пункту гледжання гэта ўсё вельмі складана.

На ўзроўні гісторыкаў і экспертаў СМІ гэта, відавочна, рызыкоўна. Аднак, на маю думку, Папа рызыкнуў выступіць у тэрапеўтычнай ролі. Гэта зразумела. Ці было варта выступаць

⇒

⇐ у такой форме? Я не ведаю, часам лепш рызыкаваць, чым не рызыкаваць.

На маю думку, мы як Касцёл яшчэ вучымся працаваць у такой ролі. Напрыклад, як можна спавядаць кагосьці публічна, каб не нашкодзіць асамблеі? Уявіце сабе, калі б споведзі былі публічныя, які б складаны гэта быў вопыт для тых, хто гэта ўсё слухае! Хутка слухачам стала б дрэнна.

**– Скажыце, якім галоўным рэчам у плане расійскай філасофіі Вы навучыліся ад Вашага мадэратара кс. Стэфана Капрыё? Гэта паважаны ў Італіі эксперт па пытаннях, звязаных з Расіяй, ён трынаццаць гадоў там працаваў.**

– Гісторыя была такая. Я быў студэнтам трэцяга курса дактарантуры Грыгарыянскага ўніверсітэта і рыхтаваўся да абароны. І адзін з адказных за мяне прафесараў пасля чарговага прачытання дысертацыі парэкамендаваў пашукаць больш кампетэнтнага мадэратара з Папскага Усходняга Інстытута, каб кіраваць даследаваннем на “ўзроўні”. Для студэнта такі паварот – моцнае выпрабаванне, але айцец Капрыё з радасцю ўзяўся за гэту працу і амаль цалкам прыняў тэкст дысертацыі. Таму, на жаль, я амаль ніколі не прысутнічаў на яго лекцыях, бо ён з іншага Інстытута. Ён выкладае там украінскую і расійскую гісторыю і філасофію.

Мы з а. Стэфана разбіралі розныя тэорыі: саборнасці, сутворчасці (Мікалая Бярдзяева), тэорыю сімфоніі і ўзрастання асобы (Льва Карсавіна), падобную да тэорыі інтэгральнай асабовасці ў некаторых украінскіх псіхалагічных школах. Таксама тэорыю сяброўства і рэўнасці ў Фларэнскага і інш. Акрамя таго, розныя псіхасацыяльныя, тэалагічныя і філасофскія канцэпцыі (ад Платона да Макса Шэлера). Цяжкім заданнем было пабудаваць масты паміж такімі рознымі сімвалічнымі сістэмамі, тым больш, што ў кожнай галіны навукі свая метадалогія. Нездарма 90% людскіх звычайных размоў – гэта спроба зразумець тэрміналогію і бачанне адно аднаго. Таму “навядзенне мастоў“ – гэта адна з найважнейшых мэтаў даследавання, а ад мадэратара вучышся не “паблытаць берагі”. Такі навык застаецца і пасля вучобы. Адназначна, што кампетэнцыя аналітыкі, крытэрыі суджэння і пабудова вынікоўвай візіі важнейшыя за саму абарону.

**– Ці можаце яшчэ штосьці дадаць пра супрацу з кс. Стэфана Капрыё? Ваш вопыт і досвед з супрацы з ім. Ці прыгадваў ён штонебудзь пра Беларусь, пра яго супрацу з арцыбіскупам Кандрусевічам?**

– Айцец Стэфана – святар візантыйскага абраду. Акрамя працы ў Італіі, з 1982 г. ён рэгулярна наведваў Расію, быў добра знаёмы з айцом Аляксандрам Менем. Пасля працаваў капеланам у пасольстве Італіі ў Маскве, а з прыходам арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча прыклаў намаганні для заснавання Інстытута св. Тамаша Аквінскага ў Маскве, дзе і выкладаў патралогію і дагматыку.

Цікава, што ў 1993 г. айцец Стэфана заснаваў каталіцкую парафію ва Уладзіміры, дзе знаходзілася катэдра біскупа Тэафана. Заўважым, што ў гэтым горадзе адчуў сваё пакліканне кангалезскі студэнт Карэнціну Банавентурэ Н'тонтасу, які пры суправаджэнні айца Стэфана скончыў семінарыю, прыняў пасвячэнне з рук арцыбіскупа Тадэвуша, а цяпер з'яўляецца добра адукаваным біблістам. Раю пачытаць інтэрв'ю пра яго пакліканне.

Ведаю, што арцыбіскуп Тадэвуш і айцец Стэфана і надалей падтрымліваюць добры кантакт. А што датычыцца Беларусі, было б добрай ідэяй папрасіць у айца Капрыё асабістае інтэрв'ю для Вашага выдання.

*Кс. Раман Суша – святар Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, доктар тэалогіі, клінічны псіхолаг. Выкладчык у Папскім універсітэце св. Банавэнтуры (Серафікум) у Рыме.*

*Гутарыў* ***Арцём Ткачук***



# Сястра Дарота Врубель: “Я шчаслівая!”

## *Уражанні манахіні ад 25 гадоў манаскага жыцця*

**Я – сястра Дарота Врубель, цяпер мне 46 гадоў. У дваццацігадовым узросце я пайшла ў манастыр. Нарадзілася ў Польшчы ў невялікім пасёлку Хожэля, вельмі падобным да Шуміліна, дзе цяпер працую.**



**– Калі Вы прыйшлі да сталай веры?**

– З дзяцінства я расла ў веры, якую закладвала пераважна мая маці. Яе прыклад асабліва паўплываў на фармаванне маёй веры ў дзяцінстве. Але больш стала, больш разумна верыць я пачала, калі мне было гадоў 15. Тады Бог стаў для мяне бліжэй, чым у дзяцінстве. Гэта не было звязана з нейкай падзеяй ці справай. Я проста расла, паступова змянялася, і мая вера таксама развівалася са мной.

**– Якія планы на жыццё ў Вас былі да таго, як Вы пайшлі ў манастыр?**

– Калі я скончыла школу, то не магла вырашыць, куды паступаць далей, які напрамак выбраць, таму вырашыла ўзяць перапынак на год, каб падумаць і адпачыць. Мой старэйшы брат у той час працаваў у манастыры ў Варшаве будаўніком. Аднойчы ён запрасіў мяне паехаць з ім. Я згадзілася, бо хацела паглядзець, як людзі жывуць у сталіцы, прыглядзецца да навучальных устаноў, каб выбраць прафесійны напрамак. Думала, можа буду прадаўцом ці выберу нешта, звязанае з музыкай. Тады я дакладна ведала, што надоўга ў манастыры не застануся.

**– Як Вы пачулі, што Бог кліча Вас да манаскага жыцця?**

– Я ніколі не хацела быць манахіняй. Ведаю, што некаторыя дзяўчыны ў касцёле з калыскі мараць пра гэта. Са мной так не было. Нават калі маці казала мне апрануць спадніцу, а я любіла хадзіць у штанах, я ёй адказвала: “Я што, манахіня, каб хадзіць у спадніцы?” Я ставілася да такога жыцця вельмі асцярожна. Калі мой брат пайшоў у семінарыю, я падумала: “Што ён сабе выдумвае: не будзе ні дзяцей, ні сям'і...” Але тады мяне вельмі зацікавіла, чаму ён гэтага хоча.

З дзяцінства і да 20 гадоў я не мела ніякіх кантактаў з манахінямі, таму ў мяне былі вельмі абстрактныя ўяўленні пра манаскае жыццё. Я думала, яны там цэлы дзень толькі моляцца, спяць у трунах. Калі я прыехала ў манастыр у Варшаве, мяне вельмі здзівіла, што гэта не так. Яны аказаліся нармальнымі жанчынамі. Там я дапамагала старэйшым сёстрам, якія ўжо не маглі з-за ўзросту самастойна паклапаціцца пра сябе. Я іх карміла, прыбірала і г.д. Гэтыя старэнькія ставіліся да мяне як бабулі да ўнучкі. Пасля ўсяго ўяўленне пра законнае жыццё ў мяне змянілася.

Праз некаторы час у мяне сталі ўзнікаць думкі: “А можа, і я магла б быць такой, як яны...”. Спачатку гэтыя думкі я пастаянна адкідвала, але яны зноў і зноў вярталіся і напаўнялі мяне спакоем. Таму праз паўгода, калі я паехала дадому на адпачынак, я ўжо была амаль упэўненая, што пайду ў манастыр, і пачала намякаць пра гэта сваёй маці, каб паглядзець на яе рэакцыю.

Наступным летам я далучылася да кандыдатак. Калі я гэта зрабіла, адчула сябе самым шчаслівым чалавекам.

**– Як адрэагавалі родныя на Вашае жаданне пайсці ў кляштар?**

– Больш за ўсіх перажываў тата, ён быў вельмі незадаволены, казаў: “Усе твае сяброўкі ўжо замуж павыходзілі, а ты будзеш адна?” Ён так казаў, бо не да канца разумеў, чаму я іду туды, да таго ж ён не разумеў, як я там буду жыць, хваляваўся, што не змагу прыязджаць. Мне здаецца, ён нешта зразумеў толькі пад канец жыцця, калі я яго даглядала. Мама таксама хвалявалася, плакала, але потым была за мяне шчаслівая. Я думала, брат, які быў клерыкам, парадуецца, што я так вырашыла, а ён толькі з недаверам сказаў: “Падумай, гэта на ўсё жыццё...” Іншы мой брат таксама вельмі перажываў, думаў, што я звар'яцела, яшчэ не ведаю жыцця і ўжо ўсё вырашыла. Думаў, не вытрымаю там, праз год вярнуся. Але я не вярнулася.

**– Ці былі ў Вас сумненні?**

– Зараз я вельмі здзіўленая, не ведаю, ці павінна так быць, але сумненняў у мяне не было. За ўсе 25 гадоў ніколі не шкадавала, што пайшла ў манастыр. Я шчаслівая. Калі я ўжо бачыла, што пайду ў кляштар, то ведала, што гэтае жаданне паходзіць не ад мяне, а ад Бога, бо я ніколі не хацела быць манахіняй. Таму я заўсёды вяртаюся да таго дня, калі адчула, што гэта Бог кліча мяне. І гэта вельмі моцнае пачуццё, я нават не ведаю як яго апісаць.

**– Ці не цяжка жыць у супольнасці?**

– Я люблю людзей, люблю размаўляць з людзьмі, мне цікава, што там у іх адбываецца, таму супольнасць для мяне ніколі не была праблемай. 17 гадоў я жыла ў вялікім доме ў Варшаве, там у нас было сто сясцёр. Я не адчувала, што для мяне ёсць праблема знаходзіцца ў вялікай ці малой, як тут, у Шуміліне, супольнасці. Я адчуваю, што тут – маё месца. Канешне, праблем не было не ў тым сэнсе, што тут усё ідэальна, бывае па-рознаму. Але калі нешта здараецца, мы пагаворым і становіцца лепш. Я лічу, што гэта нармальна.

**– Як Вы трапілі ў Шуміліна?**

– Сястра, з якой мы разам вучыліся на медсясцёр, была з Беларусі. Заўсёды, калі яна прыязджала на нашы фармацыйныя сустрэчы, казала мне: “А можа, ты б прыехала да нас у Беларусь?” Мне і сапраўды хацелася паглядзець, як там... Гэта доўжылася даволі шмат гадоў. За гэты час я скончыла вучобу, іншую вучобу, потым дапамагала навіцыянткам.* Так сталася, што ў 2014 годзе новых пакліканняў не было, і мая настаяцельніца з Варшавы запытала ў мяне, ці хацела б я паехаць у Беларусь, таму што дзве сястры ў той момант выязджалі на вучобу ў Польшчу і не было каму іх замяніць. Я пагадзілася. Ужо дзевяць гадоў я знаходжуся ў Беларусі, у Шуміліне. Я тут вельмі шчаслівая, таму што тая справа, якую я тут раблю, вельмі падыходзіць пад наш харызмат.

**– Чым Вы займаецеся?**

– Я прыходжу да бедных, ляжачых, да тых, якія самі ўжо не могуць пра сябе паклапаціцца, і дапамагаю ім як медсястра. Спаўняю тое, што хацеў рабіць святы Вінцэнт, наш заснавальнік. Шарыткі былі заснаваныя, каб дапамагаць бедным. Першыя сёстры таксама хадзілі па дамах. Тут я раблю тое самае. Таксама я дапамагаю пры касцёле, калі сёстры ад'язджаюць, дапамагаю праводзіць "Канікулы з Богам" для дзяцей. Канешне, у мяне ёсць свае першасныя задачы – даглядаць бедных, старых, ляжачых, але, калі трэба дапамагчы сёстрам, то я дапамагаю.

**– Вашаму пакліканню не так даўно было 25 гадоў. Як гэта адчуваецца?**

– Я шчаслівая. Сёстры кажуць: “О, як Вы доўга жывяце... 25 гадоў вытрымаць у манастыры...”, – жартуюць яны. Раней здавалася, што 25 гадоў – гэта так многа, а я і не заўважыла, як яны мінулі. Быццам адна хвілінка.

*Гутарыла*
***Laліта Арлоўская***

*Навіцыянткі – кандыдаткі да манаскага жыцця, якія праходзяць падрыхтоўчы год у навіцыяце.

# Каб быў попыт на мастацтва, патрэбна духоўнае развіццё

**Таццяна Мазун – дыпламаваная мастачка, якая ў мінулым годзе вырашыла змяніць напрамак сваёй творчасці і заняцца пісаннем абразоў. І не памылілася. Мы размаўляем з ёй пра тое, наколькі папулярны і выгадны сёння іканапіс. А таксама, чаму сучаснага мастацтва цураюцца ў Касцёле і як гэта змяніць.**

**– Вашая майстэрня носіць цікавую назву – "Ярына". Што яна азначае?**

– Калі я разважала над назвай, хацелася, каб гэта было штосьці традыцыйнае, звязанае з беларускім народам, з нашай мовай. І тады я пачала ўзгадваць слоўнік блізкага да майго сэрца дзядулі Валянціна. "Ярыну" пачула менавіта ад яго. Праверыла дакладнае значэнне слова. Дык вось "ярына" – гэта маладыя ўсходы збожжа, якія сеюцца ранняй вясною. І для таго, каб яны пачалі прыносіць добры плён, неабавязкова сеяць іх ва ўрадлівую зямлю. Разам з тым яны ўмудраюцца вельмі хутка ўзрастаць і быць нароўні са збожжам з добрай зямлі. Вось так і з маёй справай. Шмат хто лічыў, што з гэтага нічога не выйдзе, што гэта не модна і не запатрабавана нават сярод сучасных вернікаў…

**– То бок, Вы ўсведамлялі, што сёння пісанне абразоў можа аказацца бессэнсоўнай справай, але вырашылі рызыкнуць. І як з даходамі? Ці магчыма ўтрымаць сябе?**

– Пакуль я стартавала, была амаль на нулі. Тое, што пісала, раздавала як падарункі. Калі пачала прадаваць, то на старонцы майстэрні ў Instagram пад кожным абразом ставіла цэннікі, гэта нечакана выклікала агрэсію з боку людзей. Мне пісалі, што працы не вартыя "такіх грошай". Я ўражлівая, таму цэннікі прыбрала. І стала прасцей. Да мяне пачалі звяртацца людзі, якія сапраўды разумелі, ці патрэбны ім абраз і для чаго. Колькасць тых, хто пісаў, каб паспрачацца і пры гэтым нічога не набыць, зменшылася. На сённяшні момант маю замову за замовай. Пішу адзін абраз, і заўсёды два чакаюць у чарзе. Нават дамовілася з дзвюма парафіямі, каб прадаваць пры касцёлах. Справа ўдаецца. Такога выніку я дасягнула хутка, усяго за год. Таму жаліцца няма на што.

Адзінае, час ад часу спалучаю гэтае рамяство з аказаннем цырульніцкіх паслуг. У мяне добра атрымліваецца, я мела пастаянных кліентаў, якіх да сёння не хачу пакідаць. Я маю пашкоджаную пасля аварыі спіну, і стрыгчы з кожным годам станавілася ўсё складаней. Пісанне абразоў стала для мяне выратавальным колам.

**– Што паслужыла галоўным штуршком да абрання іканапісу?**

– Ведаеце, думкі пра тое, каб пісаць абразы, мяне наведвалі часта. І калі я была студэнткай мастацкага вучылішча, і калі падпрацоўвала катэхеткай і малявала дэкарацыі для занятка з дзецьмі. Аднак я гэтыя думкі адштурхоўвала, бо, па-першае, мне падавалася, што пісаннем абразоў могуць займацца толькі асабліва прысвечаныя Богу людзі. Падругое, я не ведала, дзе гэтаму навучыцца: каталіцкіх устаноў іканапісу ў Беларусі няма.

У выніку я вырашыла патэлефанаваць у праваслаўную майстэрню. Мне адказалі, што калі я каталічка, то навучацца ў іх не магу. Я разгубілася і падумала, што гэта канец маёй мары. Праз нейкі час, працуючы катэхеткай у братоў-капуцынаў у Мінску, пазнаёмілася з манахам, які навучаўся пісанню абразоў менавіта ў праваслаўнай майстэрні, але іншай. Пры яго садзеянні туды трапіла і я. Паўгода ездзіла ў майстэрню кожныя выхадныя, усё яшчэ ўспрымаючы гэты занятак больш як хобі. Аднак Бог захацеў для мяне іншага.

У адзін месяц вакол мяне ўсё пачало рушыцца. Я страціла дзве працы, расчаравалася ў многіх блізкіх людзях, мне пачалі надакучваць дэпрэсіўныя станы. Я не разумела, што рабіць далей. Трапіла на Ігнацыянскія рэкалекцыі – патрывала ў маўчанні, памалілася. Яны і далі мне моц, адкрытасць, натхненне. Там я вырашыла, што займуся пісаннем абразоў прафесійна.

**– У чым асаблівасць Вашага іканапісу?**

– Звычайна абразы пішуць на іконных дошках або палотнах. Я люблю пісаць па дрэве. Выбіраю кавалак з трэшчынай, сукаватасцю. Крыху зачышчаю, але не прыбіраю цалкам гэтыя недасканаласці, не зашліфоўваю. Абраз, вывва, фарба – яны і так лягуць на паверхню. А праз іх будзе праглядацца структура матэрыялу. Калі правесці пальцам, можна заўважыць валокны спілаванага дрэва. Разам з тым яно дае цеплыню і пах: такога не адчуеш, калі трымаеш абраз на дошцы ці палатне. І мяне зачароўвае гэтая прыродная натуральнасць, адсутнасць штучнасці.

Перад тым, як сесці за напісанне абраза, я таксама практыкую гадзінную медытацыю над Словам Божым, пішу абраз у поўнай цішы і засяроджанасці. Да кожнай замовы стаўлюся шчыра і аддана.

**– А што звычайна замаўляюць кліенты?**

– Часта Марыю са Святым Духам – Маці Божую з голубам у руках. Нядаўна па просьбе спадарыні арганісткі з Івянца пісала св. Кацярыну Сіенскую: яна прэзентуе яе на юбілей сваёй сяброўцы Кацярыне.

**– Як бы Вы апісалі стыль, у якім ствараеце абразы?**

– Я працую ў кананічным стылі, тым, што мне далі ў праваслаўнай майстэрні. Аднак кананічны стыль – гэта не толькі пра Царкву. У Касцёле ён таксама выкарыстоўваецца. Толькі ў нас няма такой моцнай зваротнай перспектывы, а ў праваслаўным напісанні яна абавязковая: найбліжэйшая да гледача выява вузкая, а далейшая – шырокая. Могуць існаваць і іншыя нязначныя адрозненні. Памятаю, як у майстэрні пэўная дзяўчына пісала Марыю і прасіла настаўніка паправіць ёй вусны, якія атрымліваліся больш каталіцкімі, чым праваслаўнымі.

**– Як Вы ўвогуле пачалі займацца мастацтвам?**

– Я расла ў вёсцы, дзе мела толькі ўрок малявання ў 5-7 класах, але прагнула даведацца пра гэта больш. У 15 гадоў паступіла ў Мірскае дзяржаўнае прафесійна-тэхнічнае мастацкае вучылішча на профіль "Мастак роспісу па дрэву і інкрустатар саломы з элементамі саломапляцення". На экзаменах я зразумела, што ў напрамку мастацтва мяне вядзе Божая рука. Паступаць я прыехала з адным алоўкам і ласцікам, што набыла ў вясковым кіёску. Вакол мяне сядзелі падлеткі з алоўкамі розных цвёрдасцей і мальбертамі, якія я ўбачыла ўпершыню. Я шчыра не ведала, для чаго яны. Назірала, што робяць з імі абітурыенты, і намагалася паўтарыць маніпуляцыі. Каб паступіць, трэба было здаць малюнак простым алоўкам. У пэўны момант да мяне падышоў настаўнік і ўпотай пачаў дапамагаць. А я малявала, як умела, і дзякавала Госпаду, што знайшоўся такі добры чалавек. Тады я не зразумела, чаму ён мне пасадзейнічаў. Толькі будучы студэнткай, у размове з аднакурснікам даведалася, што настаўнік павінен быў дапамагчы яму па "дамоўленасці". Аднак з-за сугучнасці нашых прозвішчаў пераблытаў. Вось так я прайшла на адну з самых прэстыжных на той момант прафесій.

**– Таццяна, звяртаючыся да сучаснага мастацтва, ці пагодзіцеся Вы, што сёння ў касцёлах яно амаль адсутнічае? Калі паўстае новая святыня, ва ўнутраным дэкоры святары аддаюць перавагу фігуратыўнасці, нават кітчу. Чаму так, як думаеце?**

– Гэта даніна традыцыі. Часта ў Касцёле, калі ўзнікаюць нейкія дыскусійныя пытанні, нават не на мастацкую тэму, то іх вырашэнне разбіваецца аб просты адказ: не, бо традыцыя. Яе сапраўды трэба шанаваць, але я не згодная з тым, што яе трэба заўсёды захоўваць.

Разам з тым, калі вернікамі рухае толькі традыцыя, то і яны не будуць шукаць ані глыбейшых сэнсаў, ані новых формаў. Памятаю, мае продкі часам вымаўлялі завучаныя малітвы, не разумеючы іх сэнсу. А сваю бабулю я так і не змагла пераканаць, што Марыя была габрэйкай, а не полькай.



**– Касцёл прапануе сэнс, а сучаснае мастацтва валодае адпаведнай мовай. Іх супрацоўніцтва магло б прыносіць добры плён: напрыклад, заваёўваць маладыя сэрцы. Як яго наладзіць?**

– Гэта павінна пачынацца з творчых майстэрняў пры парафіі, якія праводзіў бы мастак. Сёння існуе шмат курсаў, калі прыходзіш, нават не ўмеючы маляваць, пад кіраўніцтвам настаўніка пішаш карціну і забіраеш яе з сабой. Мая мара – арганізаваць такія ж, толькі хрысціянскія. На жаль, на дадзены момант я сутыкнулася з тым, што ў нашай краіне гэта вельмі складана аформіць. У такіх майстэрнях можна было б ствараць розныя ўзроўні. Пісанне абразоў было б выкладаць для дзяцей, пасля – для падлеткаў. Калі б гэта адбывалася пры парафіях, прыходзілі б хлопцы і дзяўчаты – вернікі. Іх маладыя ідэі ішлі б у патрэбным напрамку. Такім чынам быў бы закладзены пачатак, затым можна было б атрымаць вышэйшую мастацкую адукацыю. Упэўненая, праз дзесяцігоддзе гэта дало б плён.

**– Сучасны хрысціянскі мастак, ён які?**

– Гэта чалавек, які глыбока верыць, які ў стане малітвы, які дазваляе Святому Духу весці сябе. І які адкрыты на новае.

*Анжаліна Марцішэўская*






# Мужчынскі дзень засяроджання прайшоў на будове Сялібы Беззаганнай у Удзеле

**21 кастрычніка ў беларускім Непакалянаве, што на Глыбоччыне, адбылася сустрэча мужчын Глыбоцкай парафіі ў фармаце "працуем і молімся".**

■ **Міхаіл Бука**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Удзельнікамі сталі чальцы мужчынскага ружанцовага кола святога Юзафа і святога айца Піа і другога зусім нядаўна створанага кола мужчын – святога Арханёла Міхала і святога Язафата Кунцэвіча, а таксама проста таты з глыбоцкіх сем'яў.

Праграма першай паловы суботняга дня была вельмі насычаная і плённая. На самым пачатку працы айцец Віктар Мялешка OFM Conv удзяліў бласлаўленне, і справа закіпела: дэмантаж плітаў перакрыцця, планіроўка пляцоўкі каля будынка Сялібы Беззаганнай, дэмантаж старой тынкоўкі, зварачныя і бетонныя працы.

Пасля смачнага абеду распачалася не менш плённая малітоўная частка дня: разам з хлопчыкамі, якія наведваюць заняткі катэхэзы, мы памаліліся Вяночак да Божай Міласэрнасці, затым праслухалі ад а. Віктара канферэнцыю, якая ўздымала розныя пытанні: "Кім ёсць мужчына? Кім ёсць жанчына? Памылкі, якія мы здзяйсняем у сужэнствах; Роля і асабісты прыклад таты ў сям'і", памаліліся супольна Ружанец і завяршылі каля Стала Пана на святой Эўхарыстыі.

Айцец Віктар шчыра падзякаваў мужчынам за дапамогу і актыўны ўдзел у будове Сялібы Беззаганнай і блаславіў нас.



# У студзені 2024 года ў Мёрах пройдзе Дыяцэзіяльны фестываль каляднай песні "Зорка Бэтлеема"

**Парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мёрах запрашае да ўдзелу ў Дыяцэзіяльным фестывалі каляднай песні "Зорка Бэтлеема", які адбудзецца 4 студзеня 2024 года.**

Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых катэгорыях: дзеці (да 12 гадоў); моладзь (13-17 гадоў) па намінацыях: сола; гурт; інструментальная творчасць.

Да ўдзелу запрашаюцца творчыя калектывы ад парафій. Працягласць выступлення не павінна перавышаць 20 хвілін.

Удзельнікам конкурсу неабходна прайсці анлайн-рэгістрацыю і даслаць заяўку па форме на электронны адрас: ***kascelmery@gmail.com да 15 снежня 2023 года.***

Фестываль пройдзе 4 студзеня 2024 года ў раённым Цэнтры культуры і народнай творчасці (г. Мёры, пл. Леніна, 14). Пачатак – а 10-ай гадзіне.

Удзельнікі конкурсу павінны прыбыць не пазней як за 30 хвілін да пачатку фестывалю.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: **+375 (29) 216-02-86 – кс. Андрэй Кулік.**




*kascelmery.by*

## На снежань прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**6 снежня** – **імяніны** адзначаюць **кс. Мікалай Ліпскі** *(Новалукомль)*, **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*;

**7 снежня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*;

**8 снежня** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*;

**11 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Раман Мурзіч**, **імяніны** адзначаюць **а. Вальдэмар Куява OFMconv** *(Удзела)*, **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*;

**14 снежня** – **імяніны** адзначае **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**16 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Віталь Галец** *(Ушачы)*;

**24 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Данііл Мысленцаў** *(Крым)*;

**24 снежня** - **дзень нараджэння** адзначае **брат Адам Пяцельчыц OMI** *(Шуміліна)*;

**27 снежня** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Віталь Бандаронак OFMCap** *(Докшыцы)*.

*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

# Успамін памерлых у традыцыі Касцёла. Тэст

**1 Успамін усіх памерлых быў уведзены святым абатам Адэлонам, які належыў да ордэна…**



**А.** Аўгусцінцаў
**Б.** Бэнэдыктынцаў
**В.** Картэзіянцаў

**2 У якім стагоддзі ўспамін усіх памерлых распаўсюдзіўся па ўсім Касцёле?**



**А.** XI
**Б.** XII
**В.** XIII

**3 У які перыяд за наведванне могілак вернікі могуць атрымаць поўны адпуст?**



**А.** 3 2 па 9 лістапада
**Б.** 3 1 па 8 лістапада
**В.** У любы дзень года

**4 Што сімвалізуюць запаленыя на могілках свечкі?**



**А.** Малітву і любоў Касцёла
**Б.** Надзею на хуткае прыйсце Езуса Хрыста
**В.** Святло жыцця ў небе

**5 Колькі стацый традыцыйна ўваходзіць у склад працэсіі на могілках?**



**А.** 3
**Б.** 2
**В.** 5

**6 Якая малітва звычайна чытаецца за памерлых?**



**А.** "Анёл Панскі"
**Б.** Балесныя таямніцы Ружанца
**В.** "Ойча Наш"

**7 Якім душам патрэбныя малітвы Касцёла?**



**А.** Тым, што ў чысцы ці пекле
**Б.** Тым, што ў чысцы
**В.** Тым, што ў небе

**8 Якія ёсць умовы атрымання адпусту ў актаве малітваў за памерлых?**



**А.** Знаходзіцца ў стане асвячальнай ласкі, прыняць св. Камунію, наведаць могілкі, памаліцца ў інтэнцыях Святога Айца
**Б.** Знаходзіцца ў стане асвячальнай ласкі, наведаць могілкі, паўдзельнічаць у св. Імшы
**В.** Знаходзіцца ў стане асвячальнай ласкі, наведаць могілкі

**9 Іншай традыцыяй Касцёла, звязанай з памерлымі, з'яўляецца адпраўленне "грыгарыянскіх" св. Імшаў. Што гэта азначае?**



**А.** Святар адпраўляе 30 св. Імшаў за душу аднаго памерлага на працягу 30 дзён запар
**Б.** Святар адпраўляе 30 св. Імшаў за душы памерлых
**В.** Святар адпраўляе 1 св. Імшу за памерлага

**10 Якія ўчынкі міласэрнасці для душы бліжняга ёсць у традыцыі Касцёла адносна памерлых?**



**А.** Прынамсі адзін раз на год наведаць могілкі
**Б.** Пахаваць памерлага і маліцца за яго
**В.** Маліцца за памерлых

*Падрыхтавала*
***Лаліта Арлоўская***

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

# Арцыбіскуп Станеўскі наведаў парламент, дзе ўзяў удзел у круглым стале па абмеркаванні новага закона аб рэлігійных арганізацыях

**У пятніцу, 3 лістапада, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі здзейсніў візіт у Палату Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь.**

На запрашэнні парламентарыяў з Пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі беларускі іерарх узяў удзел у працы круглага стала, прысвечанага абмеркаванню новай рэдакцыі Закона Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях".

Арцыбіскупа Станеўскага суправаджаў кансультант Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі па прававых пытаннях ксёндз-канонік Андрэй Зноска.

За круглым сталом сабраліся чальцы Палаты Прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Аляксандр Румак і прадстаўнікі вядучых канфесій і рэлігій нашай краіны. Акрамя прадстаўніка каталіцкага епіскапату прысутнічалі Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Веніямін, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, муфцій Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання Абу-Бекір Шабановіч, старшыня Аб'яднання іудзейскіх рэлігійных абшчын Уладзімір Малінкін. Кожны з прысутных меў магчымасць данесці да парламентарыяў сваё бачанне далейшага ўдасканалення нарматыўнага рэгулявання грамадскіх адносін у сферы рэлігіі, выказаць заўвагі да законапраекта, унесці прапановы.

Праект новай рэдакцыі "Закона аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях" быў прадстаўлены на грамадскае абмеркаванне з 5 па 15 чэрвеня бягучага года.

Як паведамлялася на сайце епіскапату Catholic.by, Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі прыняла актыўны ўдзел у абмеркаванні законапраекта і перадала Упаўнаважанаму па справах рэлігій адмысловы дакумент, у якім змясціла свае заўвагі і прапановы. Як адзначыў юрысконсульт беларускага каталіцкага епіскапату ксёндз Андрэй Зноска, многія з прапанаваных іерархамі паправак сапраўды былі прынятыя і знайшлі адлюстраванне ў праекце будучага Закона, каторы ўжо прайшоў працэдуру першага чытання ў Ніжняй Палаце беларускага Парламента.

У сваім выступленні падчас круглага стала арцыбіскуп Станеўскі падзякаваў народным абраннікам за ўвагу да меркавання кіраўніцтва беларускага Касцёла адносна новай рэдакцыі Закона, які на дзесяцігоддзі стане фундаментальным нарматыўным прававым актам для многіх рэлігійных арганізацый. Пры гэтым іерарх звярнуўся да парламентарыяў з просьбай звярнуць увагу на некаторыя пытанні, што маюць прынцыповае значэнне для каталіцкіх вернікаў і якія могуць яшчэ знайсці нарматыўнае выразшэнне ў канчатковай версіі "Закона аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях".




Сярод такіх пытанняў арцыбіскуп асабліва падкрэсліў права вернікаў на пэўную ананімнасць і ахову асабістых дадзеных пры навучанні дзяцей рэлігіі, на права нацыянальных меншасцяў на навучанне дзяцей рэлігіі на сваёй роднай мове, на неабходнасць удасканалення працэдуры рэгістрацыі манаскіх супольнасцяў з улікам канфесійных адметнасцяў. Ажыўленую дыскусію ўдзельнікаў круглага стала выклікала ўзнятае арцыбіскупам Станеўскім пытанне пра канчатковае замацаванне ў заканадаўстве вызваленне святароў ад ваеннай службы, а семінарыстаў – ад прызыву ў войска.

Выходзячы з Дома ўрада, арцыбіскуп Юзаф Станеўскі наведаў пляц каля зачыненага касцёла святых Сымона і Алены, памаліўся каля ўваходу ў святыню і суцешыў пастырскім словам вернікаў парафіі, якія прыбіралі восеньскае лісце каля свайго апусцелага касцёла.

*Тэкст і фота:*
***кс. Андрэй Зноска***
*Catholic.by*

# Дыяцэзіяльнае спатканне груп Апостальства дапамогі душам чыстцовым адбылося ў Браславе

**28 кастрычніка ў санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе прайшла Другая агульнадыяцэзіяльная сустрэча груп Апостальства дапамогі душам чыстцовым, якія дзейнічаюць у парафіях Віцебскай дыяцэзіі. Ганаровым госцем чарговага спаткання стаў біскуп Алег Буткевіч.**



Сустрэча распачалася а 10-ай гадзіне. Напачатку ксёндз Славамір Самковіч, душпастыр груп Апостальства дапамогі душам чыстцовым Віцебскай дыяцэзіі, прывітаў удзельнікаў і коратка падвёў вынікі дзейнасці Апостальства за апошні год. Святар адзначыў, што колькасць сяброў АДДЧ павялічалася, з'явіліся новыя парафіяльныя групы ў Відзах, Лынтупах, Пагошчы. Пра сваю дзейнасць расказалі таксама аніматары новаўтвораных парафіяльных груп.

Сустрэчу працягнула адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Вяночак за памерлых узначалілі аніматары парафіяльных груп. Падчас паўтарагадзіннай адарацыі быў час не толькі на супольную малітву, але і на медытацыю і кантэмпляцыю ў цішыні перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Ахвотныя змаглі прыступіць да споведзі, каб з чыстым сэрцам прыняць удзел у Эўхарыстыі і атрымаць поўны адпуст для сябе або ахвяраваць яго за душы, якія церпяць у чыстцы.

Пасля адарацыі адбылася канферэнцыя "Пра чысцец і наступствы нявыпрашаных пры жыцці спраў", якую правеў пробашч парафіі ксёндз Станіслаў Мжыглуд SDS. Цытуючы Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, святар адзначыў, што тыя, хто памірае ў ласцы і сяброўстве з Богам, але яшчэ не ачышчаны цалкам, хоць ужо і ўпэўненыя ў сваім збаўленні, пасля смерці праходзяць ачышчэнне, каб дасягнуць святасці і ўвайсці ў нябеснае шчасце" (пар. ККК, 1030).

Некаторыя святыя, якія асабліва дапамагалі душам у цярпенні ў чыстцы, неаднаразова казалі, што чысцец – гэта цудоўнае вынаходніцтва Бога, дзякуючы якому душы могуць вызваліцца ад усялякіх заганаў, схільнасцяў да граху і цалкам ачышчаныя прыйсці на сустрэчу з Панам Сусвету.

Прыводзячы разнастайныя сведчанні містыкаў і святых, якія мелі візіі і асаблівую сувязь з душамі, каторыя церпяць у чыстцы, святар заўважыў, што існуюць "тры залатыя ключы", што адкрываюць неба: гэта любоў, пакора і аддаласць Богу. Моцнай зброяй для нашага збаўлення, а таксама збаўлення душаў, якія церпяць у чыстцы, з'яўляюцца разнастайныя выпрабаванні і пакуты, каторыя мы сустракаем на нашым жыццёвым шляху. Калі мы пераносім жыццёвыя выпрабаванні з глыбокім даверам да Пана Бога, яны будуць мець вялікі духоўны плён для нас, а таксама паспрыяюць вызваленню душаў, што церпяць у чыстцы і за якіх мы молімся.

А 13-ай гадзіне адбылася святая Імша, каторую ўзначаліў біскуп Алег Буткевіч. У гаміліі Яго Эксцэленцыя працягнуў разважанне над тэмай канферэнцыі. Іерарх адзначыў, што мы часта наракаем на Бога: "Ойча, за што мне гэтае цярпенне?", бо разглядаем жыццёвыя праблемы, хваробу як пакаранне. Аднак варта ўспрымаць нашы цяжкасці не як пакаранне, а як выпрабаванне. Многія святыя на працягу гісторыі малілі Пана Бога, каб прыняць пакуту як дар ачышчэння. Нават Езус Хрыстус прыйшоў у свет, каб аддаць сваё жыццё пакутнай смерцю, хоць не меў ніводнага граху. Яго ахвяра была складзена, каб як мага больш людзей дасягнулі Нябеснага Валадарства. Мы павінны імкнуцца зразумець, для чаго Пан Бог спасылае выпрабаванні на нашым жыццёвым шляху. Давер да Нябеснага Айца і малітва дапамогуць нам дасягнуць Божага Валадарства.

Напрыканцы Эўхарыстыі ксёндз Славамір Самковіч выказаў словы ўдзячнасці тым, хто прычыніўся да арганізацыі і правядзення спаткання, а таксама ўсім яго ўдзельнікам. Асаблівыя словы ўдзячнасці прагучалі на адрас спадарыні Інны Сапун за музычнае аздабленне сустрэчы.

Са станоўчымі эмоцыямі і бадзёрым настроем, падсілкаваўшыся смачным абедам, які падрыхтавалі гаспадары, вернікі вырушылі ў дарогу дадому.

***Жанна Закрэўская,***
*kascelmery.by*

# Свидетельство выздоровления алкоголика

**Геннадий – один из тех, кто изменил привычный и принятый способ жизни и нашёл выход из алкогольной зависимости. Сегодня он помогает другим алкоголикам встать на путь выздоровления.**

– С детства я занимался спортом. Своей компанией мы часто ходили в походы, в которые обычно брали сухое вино. Его алкоголем у нас не считали. В походе собирались вокруг костра, играли на гитаре и выпивали. Действие алкоголя я тогда не ощущал.

В 18 лет я ушёл в армию. Там продолжил заниматься спортом и стал чемпионом в своём весе, поэтому алкоголь в то время отошёл для меня на второй план. После армии я поступил в техникум советской торговли на технолога общественного питания, а после его окончания стал работать заведующим столовой. Там и начались мои проблемы с алкоголем.

Каждый раз, когда к нам приходила проверка, было необходимо устроить обед и что-то налить, чтобы её пройти. Проверяющие обычно соглашались выпить, только если с ними выпью я как заведующий. Проверки были у нас очень часто: то из санстанции, то пожарные, то народный контроль были каждую неделю. Со всеми нужно было выпить, потому что нарушения в торговле найти очень просто. Так я потихоньку спивался 20 лет. Жена замечала, что я много выпиваю на работе. Она тоже работала в торговле, поэтому я мог сказать ей: "Ты же понимаешь, у нас была проверка".

В 40 лет у меня начались серьёзные проблемы на работе, я стал прогуливать. Все уже знали, что я алкоголик, так что меня понизили до повара. Поваром я тоже работать уже не мог, меня перевели в грузчики, а потом вообще уволили. В тот период я долго нигде не задерживался, в моей трудовой было 63 записи. Мне обычно давали испытательный срок два месяца, а только потом принимали на работу. Каждый раз, когда пытался устроиться, не пил ровно два месяца, а на большее мне не хватало сил: я срывался, и меня увольняли.

Тогда я уже ни часа за сутки не был трезвый. Я не мог спать, мне было страшно выключить свет: казалось, кто-то зовёт или стоит рядом. У меня не осталось друзей, на работу не брали, с женой развёлся, я никому не был нужен. Когда мне надоело так жить, я решил уйти из жизни. Долго думая над тем, как это лучше сделать, я решил кинуться под поезд. Я думал: "Если я кинусь под машину, водителя посчитают виновным, а если кто-то пьяный попадает под поезд, машинист за это не отвечает". Но в тот день я увидел адрес группы АА. Это была первая группа в Беларуси.

Я пошёл по адресу, оказалось, они встречались в психдиспансере. В тот вечер на группу я не попал, но мне сказали, когда они собираются. Собрание проходило следующим вечером, и я решил во что бы то ни стало попасть на него. Зная, что, если приду домой, обязательно напьюсь, время до следующего собрания я решил провести прямо там, возле психдиспансера.

Так я попал на группу в первый раз. В тот день я остался трезвым и был этому очень рад. Эту радость сложно выразить словами. После собрания я забежал в пивнушку и прокричал: "Мужики, я нашёл способ остаться трезвым!" Мужики покрутили у виска и послали меня.

Когда начал жить трезво, захотел устроиться на работу. Меня всё ещё нигде не брали, но я не переставал искать. Через какое-то время меня взяли работать поваром 4 разряда в детский туберкулёзный центр. Я был очень счастлив в тот момент. А через несколько месяцев я снова стал директором столовой, там я уже не пил. В первые дни я не пил даже кефир и квас.

На группу я бежал, не пропускал ни одного собрания. Сегодня я не употребляю алкоголь уже 32 года и 4 месяца, и, хоть желание выпить никуда не ушло, пройдя программу "12 шагов", я могу жить трезво и с этим. В АА мы постоянно занимаемся, встречаемся, ездим на конференции, слушаем истории других людей, это очень помогает.



Скоро я занялся служением, посещал наркологии, больницы, ЛТП, рассказывая, что можно не просто остаться трезвым, но жить трезво. Это не одно и то же. Чтобы быть трезвым, нужно просто не пить, но это не наполняет жизнь смыслом. Чтобы жить трезво, нужно служить другим. Иногда у меня спрашивают, почему мне дома не сидится, возраст же уже солидный? А я счастлив, что могу приехать и помочь.

*Свидетельство записала*
***Лолита Орловская***



# Как спастись от алкоголизма?

**"Анонимные алкоголики" – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



- Единственное условие для членства – это желание бросить пить.
- Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.
- Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.
- Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.
- Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге "Анонимные алкоголики". Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29
**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа "Возрождение"
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88
**г. Орша**
Группа "Выход есть"
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86
**г. Новополоцк**
Группа "Лотос"
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76
**г. Браслав**
Группа "Истина"
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02
**г. Лепель**
Группа "У озера"
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60
**г. Глубокое**
Группа "Точка отсчёта"
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21
**г. Поставы**
Группа "Радость"
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64
**г.п. Шумилино**
Группа "Свет"
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com
**г. Полоцк**
Группа "Секрет выздоровления"
ул. Держинского 50.
Расписание собраний:
среда 19:00, суббота 19:00
тел. +375 29 7019101

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*



*Шаноўны **ксёндз Чэслаў Куцмеж**! Вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага ў Паставах сардэчна віншуюць Вас з днём нараджэння.*

*Жадаем Вам, ксёндз Чэслаў, Божай ласкі на кожны дзень, плёну ў духоўным служэнні людзям і нашай Айчыне, святарскага шчасця ад навяртання да Бога і веры душаў, скалечаных у жыццёвых нягодах, распусце і бязвер'і. Няхай апека Маці Божай і Анёла – ахоўніка дазволіць здзейсніцца ўсім Вашым самым светлым марам і памкненням!*

*Шчыра дзякуем за трыццаць тры гады ахвярнага служэння Богу і людзям на Беларусі, за дасканалае прамаўленне казанняў на беларускай мове, за працу з сем'ямі, з групай АА, за тлумачэнне Святога Пісання на занятках біблійнай групы.*

***З вялікай павагай, любоўю і ўдзячнасцю вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага ў Паставах***

### *Хвала Хрысту!*



*Сардэчна віншуем нашага **ксяндза-пробашча Андрэя Куліка** з нагоды Дня імянінаў (30 лістапада)!*

*Паважаны ксёндз Андрэй! Жадаем Вам моцнага здароўя, сілы і цярплівасці ў служэнні Богу і людзям! Няхай добры Бог, Панна Марыя і Ваш апякун св. Андрэй клапоцяцца пра Вас, спадарожнічаюць у штодзённым жыцці, прыносяць радасць, суцяшэнне, дапамагаюць ва ўсіх патрэбах!*

***З пашанай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча ў Мёрах***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Дасылаем словы віншавання і ўдзячнасці нашаму былому пробашчу **ксяндзу Алегу Півавару**, які 6 лістапада адзначыў Дзень нараджэння, а 12 лістапада – Дзень святарскага пасвячэння.*

*Шаноўны ксёндз Алег! Мы ўсе сардэчна віншуем Вас і жадаем, каб кожны дзень быў асвечаны Божым благаслаўленнем і напоўнены Яго ласкамі! Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае любоўю і апекай, аберагае ад небяспекі на дарогах! Няхай здароўе будзе моцным, а радасць і супакой стануць вернымі спадарожнікамі ў жыцці! Няхай на Вашай дарозе святарства заўсёды гарыць агонь надзеі! Здзяйснення ўсіх мараў і задумаў, добразычлівых людзей побач!*

*Мы любім Вас, молімся за Вас і чакаем у госці!*

*Шчасці, Божа, бацькам за выхаванне сыноў--святароў!*

***З вялікай павагай і малітоўнай падтрымкай, парафіяне касцёла св. Айца Піа ў Лёзне***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Шаноўны **ксёндз-пробашч Алег Півавар**!*

*Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння(6 лістапада) і гадавінай святарскага пасвячэння (12 лістапада).*

*За час знаходжання ў нашай парафіі Вы сталі для нас сапраўды родным і блізкім. Мы молімся за Вас, ганарымся Вамі, дзякуем за добрае сэрца, зычлівасць і цярплівасць да нас.*

*Ад шчырага сэрца жадаем Вам Божых ласкаў: здароўя на доўгія гады, моцы, радасці, шмат сіл для абвяшчэння Божай праўды.*

*Няхай жыццё Ваша будзе цікавым і доўгім, дарогі – шчаслівымі, справы – удалымі. Няхай святы заступнік Вас падтрымлівае і дапамагае пераадольваць цяжкасці, а Пан Бог узнагародзіць за нястомную працу і малітву.*

***З любоўю і павагай, вернікі капліцы св. Антонія Падуанскага ў в. Гарадзішча***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*6 лістапада адзначыў Дзень нараджэння **ксёндз Анджэй Бочар** – заснавальнік нашай парафіі ў Лёзне. Цяпер ён працуе ў Далёкіх Браслаўскага раёна.*

*Паважаны ксёндз Анджэй! Усе нашы вернікі вельмі радыя і ўдзячныя Айцу Нябеснаму, што Вы прыехалі да нас праз столькі гадоў на свята а. Піа. Цяпер мы сустрэліся ў пабудаваным касцёле. Мы нізка кланяемся Вам, ксёндз Анджэй, і дзякуем за шчырую службу ў нашай парафіі, за прыклад любові да Бога і людзей, за навучанне Божаму слову, за Ваша чулае сэрца, за дабрыню, за ратаванне нашых душаў ад граху!*

*Шаноўны ойча Анджэй! Няхай Пан Бог благаслаўляе Вас, адорыць моцным здароўем і даўгалеццем, патрэбнымі ласкамі, плёнам у святарскім служэнні, пашле верных сяброў і шчырых вернікаў! Маці Божая няхай сваім нябесным плашчом аберагае ад небяспекі на дарогах!*

*Мы молімся за Вас, любім Вас і чакаем зноў да сябе ў госці!*

*Сто гадоў, наш паважаны ойча!*

***З павагай, удзячнасцю і малітоўнай падтрымкай, парафіяне касцёла св. Айца Піа ў Лёзне***



# Кім асабіста для мяне ёсць постаць святога Язафата Кунцэвіча?

**Мой жыццёвы лёс складваўся такім чынам, што частку свайго жыцця я пражыў у г. Брэсце, у якім была прынятая знакамітая царкоўная ўнія, а затым Бог дазволіў мне жыць у в. Быцень (Івацэвіцкі р-н).**

У гэтай вёсцы калісці знаходзіўся адзін з багацейшых у Беларусі кляштарных комплексаў ордэна базыльянаў, а адным з першых настаяцеляў тут быў святы Язафат Кунцэвіч. Таму гэта постаць асабліва блізкая для мяне: Бог дазволіў маліцца і быць панамаром у тым жа храме, дзе маліўся славуты святы зямлі беларускай. Апошнім часам у сувязі з развіццём экуменічнага дыялогу вельмі часта сустракаю спробы пераасэнсаваць тыя ці іншыя падзеі з жыцця святога Язафата праз прызму сучаснасці. Гэтыя розныя погляды на жыццё святога выклікалі ўва мне пытанне: "А кім асабіста для цябе ёсць святы Язафат Кунцэвіч?" Для праваслаўных, магчыма, ён быў жорсткім захопнікам душаў, фанатыкам Папы Рымскага і чалавекам, які распаўсюджваў ерэтычныя (на іх погляд) ідэі Адзінай Царквы, што не зусім ім падабалася. Для беларускіх католікаў – ён вялікі святы, які прыводзіў нашых людзей да Каталіцкай Царквы. Гісторыкі ж разглядаюць і іншыя аспекты яго жыцця. Гэтыя пункты гледжання часам сутыкаюцца паміж сабой у палемічнай жарсці, і я асабіста быў сведкам таго, як яны зводзяцца да элементарных звадак.

Для мяне ж святы Язафат – гэта ўзор спробаў знайсці еднасць паміж праваслаўнымі, пратэстантамі і католікамі. У маім жыцці вельмі часта сустракаліся людзі розных канфесій, асабліва шмат у мяне сяброў з розных пратэстанцкіх супольнасцяў, таму прыклад святога Язафата навучае і падбадзёрвае мяне заўсёды сведчыць пра тое, што паўната хрысціянскай ісціны і навучання знаходзяцца менавіта ў Каталіцкай Царкве, і менавіта Каталіцкая Царква мае паўнату ўсіх сродкаў, неабходных для атрымання збаўлення.

Таксама для мяне святы Язафат – гэта прыклад нястомнай працы на карысць Хрыстовай Царквы і добрага душпастырства. За гады кіравання святы Язафат фактычна змяніў аблічча беларускай Царквы, зрабіўшы яе жывой і здольнай годна служыць людзям і Богу. Стараннямі Кунцэвіча было адкрыта некалькі новых манастыроў. Такім чынам, арцыбіскуп Язафат Кунцэвіч спраўна выконваў свае пастырскія абавязкі.

Для мяне як для будучага святара і чалавека, каторы ўжо служыць дарам навучання, Язафат Кунцэвіч ёсць эталонам прапаведавання – як у храмах, так і на вуліцах. Так, адукаваных пратэстантаў Язафат прываблівў вытанчанасцю аргументаў, начытаных прыхільнікаў праваслаўя – добрым веданнем усходніх традыцый, простых мяшчан і сялян – строгай прыхільнасцю праваслаўю. Гэтым усім ён заваяваў пэўны аўтарытэт сярод сваіх вернікаў і сярод іншых людзей (праваслаўных, рыма-католікаў, юдэяў і пратэстантаў).

Калі я вывучаў постаць святога Язафата, то знайшоў толькі адну яго "правіну": ён не жадаў падзяляць намеры праваслаўных вернікаў далей быць аддзеленымі ад Рыма. Не знайшоў я і абгрунтаваных звестак пра гвалт і жорсткасць полацкага арцыбіскупа. Язафат толькі культурна і годна, адпаведна са сваім станам і пасадай адстойваў свае законныя правы. Не знайшоў я і таго, каб Кунцэвіч дабіваўся чагосьці з дапамогай зброі, жаўнераў, арганізацый пагромаў праваслаўных, таксама і не заклікаў ён ніколі кагосьці забіваць.

Апошняе, што вельмі кранае мяне, – гэта тое, як Язафат не баяўся прыняць мучаніцкую смерць. Мала дзе пра гэта гавораць, але арцыбіскуп, ведаючы стан насельніцтва Віцебска, разумеў, што ехаць туды было даволі небяспечна. Язафат не трымаў пры сабе войска, таму мог бараніцца толькі словам і малітвай. Мяне ўразіла і тое, што, выязджаючы з Полацка, каб супакоіць Віцебск, ён загадаў загадзя падрыхтаваць яму ў Полацку труну. Калі натоўп сабраўся каля плябаніі арцыбіскупа, то святы Язафат асабіста выйшаў да іх. Смелы ўчынак, і раздумваючы пра гэта, я пытаю ў сябе: "Ці змагу я таксама бараніць Хрыстову веру?"

Далей падзеі адбываліся па законе натоўпу: выйшлі два п'яныя "героі", адзін ударыў арцыбіскупа палкай, другі ўдарыў сякерай па галаве. Гвалт, кроў і па сённяшні дзень, на жаль, ап'яняюць чалавека не менш, чым гарэлка... Цела Кунцэвіча ледзь не разарвалі на часткі, нехта стрэліў яму (яшчэ жывому) у галаву. Цела спусцілі ў Дзвіну. Потым "змагары за веру" спустошылі арцыбіскупскі палац...



І па сённяшні дзень я маю права выбраць, на якім баку мне быць: ці на баку святых, ці на баку забойцаў. Але я рады, што ў сваім жыцці сустрэўся з такой вялікай і святой постаццю, як святы Язафат Кунцэвіч, дзякуючы катораму я прыняў рашэнне быць на баку святых. Таксама я веру: дзякуючы таму, што некалькі гадоў я маліўся ў месцы першага ігуменства святога Язафата, ён заўсёды дапамагае мне стаяць на баку святла, а не цемры!

***Ціхран Латышаў,***
*вёска Удзела, парафія Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі*

# Ён ні рыба ні мяса! І ў яго не ўсе дома!

### Пра некаторыя асаблівасці ўжывання названых фразеалагізмаў

**У сённяшнім выпуску нашай моўнай старонкі мы крыху пагаворым пра фразеалагізмы – устойлівыя спалучэнні, якія вызначаюцца пастаянным лексічным складам і вядомым для носьбітаў канкрэтнай мовы значэннем, звычайна вобразна-пераносным. Тэму нам падказаў чытач "Каталіцкага весніка" з Браслаўшчыны спадар Мікалай.**

■ Юрась Бабіч, *кандыдат філалагічных навук*

Ён, у прыватнасці, піша: "Я шмат гадоў адпрацаваў настаўнікам, але выкладаў у школе дакладныя навукі, а не мову. Цяпер вось на пенсіі, вольнага часу стала значна больш, таму пакрысе ўдасканальваю сваё валоданне беларускай мовай. І неяк міжволі ўзнікла пытанне пра пэўныя словазлучэнні. Бо мая сваячка рэгулярна ўжывае, напрыклад, выразы **ні рыба ні мяса** або **ў цябе не ўсе дома**). Дык мяне цікавіць, у якіх сітуацыях названыя словазлучэнні могуць выкарыстоўвацца і ці могуць увогуле ў літаратурнай мове?"

На нашу думку, закранутая праблема будзе цікавая і для шырокага кола нашых чытачоў, таму паспрабуем разабрацца. Але найперш шчыра дзякуем спадару Мікалаю за паважлівае стаўленне да беларускай мовы, а таксама за падказаную тэму.

Адразу скажам, што такія словазлучэнні называюцца фразеалагізмамі. І яны ўжываюцца ў літаратурнай мове, бо надаюць выказванню істотную долю вобразнасці, экспрэсіўнасці. Што ж да канкрэтных, прыведзеных нашым чытачом устойлівых спалучэнняў, то яны пераважна фіксуюцца ў мастацкіх тэкстах ці ў вусным маўленні.

Выраз **ні рыба ні мяса** занатаваны ў мове беларусаў яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя. У прыватнасці, ён згадваецца ў публікацыях нашых вядомых фалькларыстаў Я. Чачота, М. Федароўскага, І. Насовіча. Але гэта толькі час фіксацыі ў вывучаных пісьмовых крыніцах, бо ўжываўся гэтае выслоўе, несумненна, і значна раней. Мяркуецца, што дадзены фразеалагізм прыйшоў у нашу мову пад уплывам нямецкай, будучы беларускім эквівалентам нямецкага ***nich Fisch nich Fleisch***. Спалучэнне вельмі арганічна зніталася з беларускай лексічнай сістэмай, так што без адмысловых даследаванняў немагчыма яго ўспрымаць як небеларускае паводле паходжання. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (ТСБМ. – 1980. – Том 4. – С.732) так падае сэнс фразеалагізма: "Пра чалавека, які не мае характэрных індывідуальных якасцяў; ні тое, ні сёе". Прывядзём для ілюстрацыі пару прыкладаў: *Ён табе нічым не дапаможа: **ні рыба ні мяса**; Узяў бы ды сказаў сваё слова, а то сядзіш **ні рыба ні мяса**!; А муж твой табе і слова ўпоперак сказаць баіцца – **ні рыба ні мяса**...* Як падаецца, сітуацыя досыць празрыстая, нам зразумела, калі мэтазгодна будзе выкарыстаць згаданы красамоўны фразеалагізм.

Цяпер што да іншага ўстойлівага спалучэння – **не ўсе дома**. ТСБМ (Том 5. – С. 604) падае значэнне – "Пра дзівака, чалавека ненармальнага, прыдуркаватага". З гэтай дэфініцыі вынікае, што фразеалагізм мае дастаткова высокую ступень адмоўнай эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкі, канатацыі. Заўважым разам з тым, што выслоўе часта фіксуецца ў розных творах мастацкай літаратуры, у тым ліку і ў класічных тэкстах. А ў Янкі Купалы ёсць нават верш, які так і называецца – "*Не ўсе дома*". Выраз, вынесены ў загаловак купалаўскага верша, як рэфрэн ужываецца ў творы 14 разоў. А яшчэ прыгадаем яго ж камедыю "Паўлінка", дзе галоўная гераіня гаворыць: "*У Якіма **не ўсе дома**, бо поначы ходзіць да маладых дзяўчат*". Ці вось, да прыкладу, у Якуба Коласа чытаем: "*Сам жа рэдактар для іх быў чалавекам, у якога **не ўсе дома***". Як бачым, класікі нашай літаратуры выкарыстоўвалі аналізаванае ўстойлівае спалучэнне ў сваіх творах шмат разоў.

Такім чынам, адказваючы на пытанне нашага шаноўнага чытача спадара Мікалая заўважым, што ўжыванне двух прааналізаваных фразеалагізмаў у беларускай мове – з'ява цалкам нармальная. Разам з тым неабходна памятаць, што падобныя выразы істотна ўзмацняюць вобразны эфект, падкрэсліваюць эмацыйны, звычайна негатыўны характар выказвання. Таму ў вуснай камунікацыі варта быць асцярожным у выкарыстанні спалучэнняў **ні рыба ні мяса** і **не ўсе дома**, каб выпадкова не абразіць каго-небудзь, не закрануць чыіхсьці пачуццяў. Іншая справа, калі яны ўжываюцца з выразным адценнем іроніі, жартам, абсалютна незласліва. Дакладна так, як у сітуацыі з нашым чытачом.

# Першы юбілей віцебскай супольнасці "Маці ў малітве"

**22 кастрычніка супольнасць "Маці ў малітве" з парафіі святога Антонія ў Віцебску адзначыла свой 5-гадовы юбілей.**

Назва гэтай супольнасці гаворыць сама за сябе. Мы молімся за дзяцей і ўнукаў сваіх, і не толькі за іх. Інтэнцый многа, і мы ўпэўненыя, што яны даходзяць да Бога.

На сустрэчу прыехала куратар суполак па Віцебскай дыяцэзіі Паліна Парфяновіч з Браслава, а таксама прыбылі чальцы супольнасці "Маці ў малітве" з парафіі святой Барбары з Віцебска.

Пачну ўсё па парадку: спачатку быў ружанец з разважаннямі, затым – святая Імша за супольнасці "Маці ў малітве". Імшу цэлебраваў ксёндз Антон Лагунёнак, пробашч гэтай парафіі. Падчас казання святар выказаў свае меркаванні адносна стварэння супольнасці: для чаго яна створаная і якое значэнне мае прыклад бацькоў у працэсе выхавання сваіх дзяцей.

Потым усе маці з супольнасцей і ўсе ахвотныя працягнулі традыцыйную малітву, як і падчас кожнай сустрэчы. Спачатку маліліся да Духа Святога, каб Ён кіраваў нашай сустрэчай. Потым дзякавалі, прасілі прабачэння і праслаўлялі Пана Бога і Марыю. Пасля прачытанага ўрыўка з Евангелля разважалі над Божым словам. На заканчэнне ў інтэнцыях прасілі пра супакой у свеце, за святароў, кіраўнікоў і кансэкраваных асобаў.



Свае віншаванні ўдзельнікам даслалі біскуп Алег Буткевіч, куратар "Маці ў малітве" ў Беларусі Людміла Губіна і Ганна Лагунёнак з Лынтупаў.

Потым была прапанаваная невялікая сцэнка пад кіраўніцтвам сястры Антоніі, у якой "Анёлы" і сястра расказалі, як была створана першая, а праз некалькі гадоў і другая супольнасці. Падсілкаваўшыся пачастункамі, матулі праверылі свае веды Божага слова ў конкурсе.

Маці шчыра дзякуюць пробашчу, сёстрам законным і ўсім, хто прычыніўся да ўдзелу ў падрыхтоўцы гэтага юбілею, а парафіянам і гасцям – за прысутнасць, супольную малітву і падарункі.

*Эма Ткачова*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:
***Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

*Рэдакцыя*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Біблійны лексікон: святасць

**На пачатку лістапада мы адзначаем у літургіі ўрачыстасць Усіх Святых, у якой наш позірк скіраваны на тых, хто ўжо знаходзіцца перад Божым абліччам у вечнасці. Гэта выдатная нагода ўспомніць пра тое, што кожны ахрышчаны, кожны вучань Езуса пакліканы да святасці. Што значыць быць святымі ў святле той праўды, якую мы знаходзім у Бібліі?**



**Быць святымі, бо Бог наш святы**

Святасць – гэта ў першую чаргу якасць самога Бога. "Святы, Святы, Святы Пан Бог усемагутны", паўтараем мы ў кожнай Эўхарыстыі словы херувімскай песні, якія перадае нам прарок Ісая (Іс 6, 3). Ён пачуў гэты гімн падчас візіі, у якой убачыў Божы трон і нябесных істотаў вакол яго. Габрэйскае слова "qadosh" азначае першапачаткова "аддзелены, адасоблены". Гэтая Божая якасць кажа пра тое, што Пана немагчыма параўнаць з аніякай зямной рэчаіснасцю, што Ён непадобны да нічога з нашага чалавечага досведу. Па гэтай прычыне ў Першым Запавеце існуе забарона рабіць выявы Бога, каб не "перабльтаць" іх з Тым, Хто ёсць "цалкам іншы". Святасць Бога датычыць перадусім Яго адасобленасці ад усялякага зла і ад сапсаванасці. Як рэчы, так і людзі, што ўваходзілі ў кантакт з боскай рэчаіснасцю перш за ўсё ў кульце, павінны былі таксама быць максімальна "чыстымі", гэта значыць, без заганы, і быць адпаведна прызначанымі на служэнне Богу ("аддзеленымі" ад звычайнага, "бытавога" ўжытку). Закон, дадзены Ізраілю праз Майсея, павінен быў служыць указаннямі, як захаваць святасць – гэта значыць адасобленасць ад іншых народаў, якія не прызнавалі адзінага Бога і пакланяліся ідалам.

Трэба памятаць, што першапачаткова чысціня (сінонім святасці) ў Законе датычыла знешніх прыкметаў: напрыклад, кантактаў з мёртвым целам, а таксама дзеянняў, звязаных са сферай сексуальнасці, што на нейкі час рабілі чалавека "нячыстым", то бок непрыдатным для ўдзелу ў кульце. Таксама мэтай шматлікіх "дыетычных" нормаў было захаванне рытуальнай чысціні. Менавіта ў гэтым кантэксце гучыць Божы заклік да выбранага народа: "Будзьце святымі, бо Я святы" (Лев 11, 45). Аднак разам са шматлікімі нормамі, якія датычылі культу, былі ў Законе і тыя, у якіх гаворка ішла пра паводзіны з іншымі людзьмі. Асаблівымі групамі людзей, якія вылучаліся ў Законе, былі найбольш абяздоленыя – удовы, сіроты, чужаземцы. Менавіта ў адносінах перадусім да іх ізраільцяне як "народ святы" павінны былі наследаваць Бога, Які ўбачыў іхнюю нядолю ў Егіпце і злітаваўся над імі.

**Святыя, бо ў дарозе з Настаўнікам, асвечаныя Духам**

У Евангеллі мы бачым, як Езус крытыкуе кніжнікаў і фарысеяў за тое, што яны зашмат увагі звяртаюць на рытуальную чысціню, забываючы пра іншыя запаведзі Закона, якія наказваюць быць міласэрнымі. Заклік да святасці, да дасканаласці (пар. Мц 5, 48), то бок, імкненне быць падобнымі да Бога, становіцца ў вучэнні Езуса заклікам да таго, каб быць міласэрнымі, як Айцец наш міласэрны (Лк 6, 36). Канешне, няма лепшага ўзору для нас, чым сам наш Настаўнік, Які адкрыў нам аблічча Айца. У адгартацыі Папы Францішка на тэму святасці пад назвай Gaudete et exsultate ("Радуйцеся і весяліцеся") ёсць раздзел пад назвай "У святле Настаўніка", дзе Папа нагадвае, што шлях святасці, шлях аўтэнтычнай чалавечнасці і адначасова падабенства да самога Бога не ў тым, каб паводзіць сябе паводле нейкага абстрактнага алгарытму ці збору правілаў, а каб наследаваць Езуса і ісці побач з Ім.

Напэўна, большасці з нас думка пра сябе як пра "святую" ці "святога" падасца ганарлівай ці проста недарэчнай. Але св. Павел звяртаецца да сваіх адрасатаў менавіта як да святых (напр., Флп 1, 1). Папа Францішак кажа пра "святых па суседстве" і прыводзіць прыклад "бацькоў, якія з вялікай любоўю выхоўваюць сваіх дзяцей; мужчын і жанчын, што працуюць, каб зарабіць на хлеб, хворых, састарэлых законніц, якія працягваюць усміхацца" (GE, 7). Святасць – гэта не наша ўласнае "дасягненне" ці поспех, а плод дзеяння Духа Святога, з Якім мы выбіраем супрацоўнічаць дзень пры дні ў часам няпростых абставінах нашага жыцця.

"Ці не ведаеце, што вы святыня Божая і што Божы Дух жыве ў вас?.. Святыня Бога святая, а ёй з'яўляецеся вы", – піша апостал Павел (1 Кар 3, 16-17). Ісці шляхам святасці – значыць "аддзяляцца" ад зла, імкнуцца не мець нічога супольнага з любым грахом. Гэта не значыць быць цалкам бязгрэшнымі, бо для людзей такі стан немагчымы: прыклад святых, якія ўсведамлялі сваю недасканаласць тым больш, чым бліжэй станавіліся да Бога, пацвярджае гэта. Сваёй ласкай Дух Святы нас няспынна ачышчае і асвячае ў любові, так што святасць – гэта вынік Яго дзеяння ў нас.

**"Малая дарога" святой Тэрэзкі**

Хоць, як мы ўбачылі, святасць датычыць не толькі "кананізаваных", то бок, афіцыйна абвешчаных святымі аўтарытэтам Касцёла, але мы з удзячнасцю прымаем узор і нябесную дапамогу тых, хто асабліва вызначыўся ў наследаванні Езуса і заслужыў хвалы алтароў. Зусім нядаўна Папа Францішак з нагоды 150-годдзя ад дня нараджэння св. Тэрэзы з Лізьё скіраваў да Божага народа адгартацыю "C'est la confiance" ("Гэта давер"), у якой нагадвае пра духоўную спадчыну гэтай так любімай сярод вернікаў святой. Яна з'яўляецца для нас прыкладам "дзёрзкай упэўненасці" (п. 17), што магчыма стаць святой не праз уласныя заслугі, а цалкам давяраючы Божай любові. "Адным з найважнейшых адкрыццяў Тэрэзкі для дабра ўсяго Божага народа з'яўляецца яе "малая дарога", дарога даверу і любові, вядомая таксама як "дарога духоўнага дзяцінства". Кожны, незалежна ад узросту і стану жыцця, можа ісці па ёй. Гэта дарога, якую нябесны Айцец адкрывае малым (пар. Мц 11, 25)", – піша Папа.

Святая, якая дасягнула вяршыняў святасці за сваё вельмі кароткае жыццё і якая выказвала жаданне і ўпэўненасць, што і пасля смерці будзе чыніць яшчэ больш дабра, вучыць нас, што шлях святасці – гэта шлях малых крокаў, сціплых учынкаў, выкананых з любоўю. Тэрэзка ў гэтым святле наблізіла вернікам Маці Божую як Тую, Хто "з'яўляецца найвялікшай у Нябесным Валадарстве, бо Яна найменшая" (п. 36): самая пакорная, самая малая, самая простая. Няхай мы разам з Той, Якая акрамя таго, што нарадзіла Збаўцу, была найлепшай Яго вучаніцай, са св. Тэрэзкай і з усімі святымі адкрыем, што наша пакліканне – гэта Любоў, і будзем уцелаўляць гэта пакліканне дзень пры дні.

***Айцец Віктар Жук SJ***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **рух "Маці ў малітве"** *(Глыбокае)*, **Даната Сярогіна** *(Глыбокае)*, **Ядвіга Кісель** *(Глыбокае)*, **Тэрэза Салодкая** *(Глыбокае)*, **Ванда Кузьміч** *(Глыбокае)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Аляксандр Альхімовіч** *(Мёры)*, **Валянціна Рыбак** *(Гомель)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Казімір Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Людміла Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Клемянціна Крымская** *(Навапалацк)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Вераніка Васілеўская** *(Вялікае Абабе)*, **Марыя Рачыцкая** *(Якубова)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Елізавета Красілевіч** *(Казлоўшчына)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абабе)*, **Валерыя Шакель** *(Лугі)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Тэрэза Балтромун** *(Бастуны)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Яніна Волк** *(Хацілы)*, **Аліна Козік** *(Мінск)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Альфрэда Меранкова** *(Віцебск)*, **Браніслава Шакель** *(Браслаў)*, **Аліна Пятрова** *(Мёры)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Ганна Барысевіч** *(Глыбокае)*, **Вацлава Савіцкая** *(Глыбокае)*, **Аліна Латыш** *(Паставы)*, **Валянціна Курта** *(Луцк Казлоўскі)*, **Тэрэза Рулевіч** *(Браслаў)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Чэслаў Юршэвіч** *(Мількі)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Ада Шумская** *(Навапалацк)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Ніна Марунько** *(Навалукомль)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Святлана Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Лілія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Люцыя Голуб** *(Дуброўшчына)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Ванда Кузьміч** *(Глыбокае)*, **Эма Роўда** *(Навалукомль)*, **Станіслаў Клімза** *(Шаркаўшчына)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*

# У Віцебску прыняў хрост вернік ва ўзросце 84 гадоў

**У Віцебску ў парафіі святога Антонія Падуанскага 9 лістапада быў ахрышчаны спадар Леанід.**

Спадару Леаніду 84 гады. Падчас размовы з пробашчам парафіі кс. Антонам Лагунёнкам Леанід папрасіў, каб яго пахрысцілі. Ён сказаў, што верыць у Бога і хоча быць з Ім. Праз тры тыдні пасля падрыхтоўкі да сакраманту хросту яго ахрысцілі падчас св. Імшы. Хроснымі бацькамі Леаніда былі сп. Валя з супольнасці "Маці ў малітве" з парафіі св. Антонія і сп. Пётр з Легіёна Марыі з парафіі Езуса Міласэрнага.

Прымаючы сакрамант хросту, сп. Леанід ахвотна адказваў на пытанні святара, вызнаючы веру ў Трыадзінага Бога і Збаўцу нашага Езуса Хрыста. Уся ўрачыстасць зрабіла вялікае ўражанне на ўсіх, хто прыйшоў у капліцу святога Яна Божага ў мясцовым доме-інтэрнаце для састарэлых асоб.

***Сястра Антонія Тарноўская BDNP,***
*тэкст і фота*



*Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!*

# ПАЗНАВАЙКА

*Пахвалёны Езус Хрыстус! Дарагі дружа, вітаю цябе ў новым нумары "Пазнавайкі". Трывае месяц лістапад. Набліжаецца да завяршэння восень: ужо апалі лісты з дрэваў, усё радзей і радзей нас радуе сонейка, а можа ў тваім горадзе выпаў першы снег... Але ж і напрыканцы восені ёсць шмат цікавага. У Каталіцкім Касцёле ў лістападзе шмат значных і цікавых падзей. Давай разам засярodзімся над некаторымі з іх.*



## 1 ЗАДАННЕ

1 лістапада Касцёл адзначае ўрачыстасць Усіх Святых. Хто такія святыя і як да іх далучыцца? Святыя - гэта тыя, хто ўжо вечна жыве на Небе і моліцца за нас. Усе, каго Пан Бог заклікаў у Нябеснае Валадарства, - святыя. Кожны чалавек павінен імкнуцца да святасці, каб сустрэцца пасля зямнога жыцця з Панам Богам у жыцці вечным.

Спіс святых вельмі вялікі і гэта самыя розныя людзі. Разгледзь выявы святых 19-20 стагоддзя, падпішы імёны тых, якіх ведаеш. А калі кагосьці не пазнаў – запытайся ў бацькоў.











## 2 ЗАДАННЕ

**2 лістапада** ўспамінаем усіх памерлых вернікаў. Малітва за памерлых вельмі важная, бо шмат душ, якія знаходзяцца ў чыстцы, чакаюць на сустрэчу з Нябесным Айцом, а дапамагчы ім можа наша малітва.

**Напішы, за каго з памерлых молішся ты?**

______________________________

______________________________

Растаў у правільным парадку пераблытаныя словы, каб атрымалася малітва за памерлых.

**Пане свеціць адпачынак ім**
**а вечнае няхай ім Вечны**
**дай святло**

______________________________

______________________________

______________________________

## 3 ЗАДАННЕ

**12 лістапада** ўспамінаем святога Язафата, біскупа і мучаніка. Чаму гэты святы такі важны для нас? У сваім святарскім жыцці ён шмат змагаўся за еднасць хрысціянаў і за гэта нават прыняў мучаніцкую смерць.

У гэты дзень літургія Касцёла прапаноўвае ўрывак з Евангелля ад Мацвея 25, 1–13. Прачытай яго, адкажы на пытанні крыжаванкі і даведаешся назву дыяцэзіі, апекуном якой з'яўляецца святы Язафат



1. Каму Езус расказаў прыпавесць?
2. Каму насустрач выйшлі дзесяць паннаў?
3. Колькі было мудрых паннаў?
4. Чаго не ўзялі неразумныя панны?
5. *Устаўце прапушчанае слова:* А мудрыя адказалі: "Каб хапіла і вам, і нам, пайдзіце лепш да тых, хто прадае, і купіце ...." .
6. На якое свята ўвайшлі падрыхтаваныя жанчыны?
7. *Устаўце прапушчанае слова:* Пасля прыходзяць і астатнія панны ды ....
8. Што прасілі неразумныя панны ў жаніха?
9. *Устаўце прапушчанае слова:* Таму чувайце, бо не ведаеце ні... , ні гадзіны.



## 4 ЗАДАННЕ

**30 лістапада**

ў Касцёле ўзгадваюць святога апостала Андрэя.

Размалюй ілюстрацыю і ўпомні, што ты ведаеш пра гэтага святога.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Філіпенка***

# У Віцебскай катэдры адзначылі 400-годдзе мучаніцкай смерці святога Язафата Кунцэвіча

**Што можа сучасны чалавек сказаць пра асобу, якая жыла чатырыста гадоў таму назад? Што можа распавесці пра таго, хто трагічна закончыў жыццё на нашай віцебскай зямлі?.. Адказы на гэтыя пытанні прагучалі ў літаратурных творах і малюнках удзельнікаў конкурсу, "неВЯДОМЫ ЗАСТУПНІК", прысвечанаму 400-годдзю мучаніцкай смерці святога Язафата Кунцэвіча.**

Святы Язафат Кунцэвіч з'яўляецца апекуном Віцебскай дыяцэзіі, літургічны ўспамін якога прыпадае на 12 лістапада. У гэты дзень у 400-ю гадавіну мучаніцкай смерці віцебская катэдра вакол алтара сабрала шмат вернікаў, а сярод іх і ўдзельнікаў літаратурна-мастацкага конкурсу.

Урачыстую Эўхарыстыю ўзначаліў ардынарый дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч. Падчас гэтай святой Імшы за дыяцэзію маліліся таксама ксёндз-канонік Віктар Місевіч, канцлер курыі, і ксёндз Генадзь Рэйшэль. Заклік Хрыста "каб усе былі адно" як для Язафата Кунцэвіча быў жывым і дзейсным словам, клопатам яго жыцця, так і для нас сёння застаецца актуальным. Рэліквіі Святога Язафата выстаўленыя ў катэдральнай святыні для ўшанавання і асабістай малітвы.

Пасля святой Імшы ўсе парафіяне і госці накіраваліся ў парафіяльную кавярню, дзе можна было паглядзець выставу прац, прысвечаных Язафату Кунцэвічу. Аж 38 малюнкаў даслана з розных куткоў нашай дыяцэзіі і з Мінска – сталіцы Беларусі. Працы вельмі цікавыя, выкананыя ў розных тэхніках. Найстарэйшы ўдзельнік у катэгорыі "Малюнак" мае 64 гады, а наймалодшы – 7 гадоў.

Кампетэнтнае журы вылучыла пераможцаў. Адзіным удзельнікам і пераможцам у катэгорыі "Малюнак" сярод дарослых стала Ала Дземідовіч з Дзяркаўшчыны.

Сярод малодшых (6 - 12 гадоў):

1-е месца – Любоў Несцяронак з Докшыц, Сафія Баран з Мёраў і Ангеліна Стрэльская з Мінска.

2-е месца падзялілі Паліна Фралова з Пастаў з парафіі Езуса Міласэрнага, Насця Бярдоўская з катэдры з Віцебска і Кацярына Марозава з Віцебска з парафіі Святога Уладзіслава.

3-е месца атрымалі Ева Сафіна і Арына Лагун з катэдры з Віцебска, Святлана Шылёнак з Канстанцінава.

Сярод узроставай катэгорыі 13-17 гадоў было прадстаўлена сем прац, а першае месца заняла Аліка Будкевіч з Віцебска з парафіі святога Уладзіслава, другое – Тадэвуш Урбель з катэдры з Віцебска, трэцяе – Ганна Пяткевіч з Мёраў.

Літаратурных твораў было менш, але журы мела больш клопату з вылучэннем найлепшых прац на прызавыя месцы. Сярод самых малодшых – Сцяпан Серабро з Віцебска з парафіі святой Барбары, які напісаў твор пра "Сабаку Святога Язафата", а браты Рабкоўскія – Артур і Аркадзь – з Глыбокага падрыхтавалі біяграфію святога з ілюстрацыяй. Яны атрымалі дыпломы Першай ступені. Журы канстатавала: "творы настолькі прыгожыя і розныя, што нельга недацаніць і не даць першыя месцы". Крысціне Бараўко з катэдры з Віцебска і Мацвею Скукоўскаму з Мосара таксама журы прысудзіла першая месца ў іх узроставай катэгорыі.

Сярод дарослых, якія прадставілі свае творы, першае месца аддадзенае без сумневаў Сяргею Раюнцу з Мінска за яго цудоўны твор – песню "Пахвала Святому Язафату". Другое месца заняла Яна Барысевіч з Глыбокага. Яе працу "неВЯДОМЫ ЗАСТУПНІК" журы ацаніла як "сапраўдны літаратурны твор, а не кампіляцыю энцыклапедычных звестак".

Трэцяе месца заняў гімн у гонар Святога Язафата Кунцэвіча, аўтарам якога з'яўляецца Алена Іосіфаўна Татун з Канстанцінава.

Сярод працаў удзельнікаў конкурсу хочацца адзначыць нарыс Ціграна Латышава з Удзела. "Кім для мяне ёсць постаць святога Язафата Кунцэвіча?" – яго адказ на гэтае пытанне можна назваць хрысціянскім разважаннем. Галоўная каштоўнасць твора ў яго заглыбленасці ва ўласную свядомасць...

Атмасфера вялікага свята дыяцэзіі адчувалася ва ўсім: у колькасці гасцей, прыгожа падрыхтаванай выставе, у павазе падчас знаёмства з працамі, уручэнні дыпломаў і падарункаў біскупам Алегам, радасці перамогі, радасці бацькоў, гасцей з Мёраў і з Мінска. Удзельнікі мелі магчымасць паказаць сваю працу альбо прачытаць свой твор, як гэта зрабіла, у прыватнасці, спадарыня Ганарата. Словы ўдзячнасці і радасці выказала Наталля – мама Ангеліны Стрэльскай з Мінска і Тэрэса – мама Алікі Будкевіч з Віцебска, якія занялі першыя месцы. Смачны дадатак да ўрачыстасці падрыхтавалі парафіяне, за што ім вялікі дзякуй.

Спонсарамі конкурсу былі Віцебская дыяцэзія ў асобе біскупа Алега Буткевіча і Карытас-Беларусь у асобе дырэктара гэтай дабрачыннай установы ксяндза-каноніка Андрэя Аніскевіча. Дзякуючы іх падтрымцы пераможцы і ўдзельнікі атрымалі каштоўныя падарункі.

"Свята атрымалася вельмі добрым, па-сямейнаму цёплым. Было столькі ўсмешак і пазітыўнага настрою ва ўсіх удзельнікаў. Вельмі прыемна, што наш Апякун сабраў нас, дапамог яшчэ раз усвядоміць, як важныя еднасць і ўзаемаразуменне паміж людзьмі. Дзякуй усім, хто задумаў і падрыхтаваў такое мерапрыемства," – сказала ўдзельніца конкурсу Алена Татун.

"Для мяне было зусім нечакана заняць прызавое месца ў конкурсе. І адначасова вельмі радасна. Калі вучылася ў школе, то ў падручніках па гісторыі, на жаль, было даволі суб'ектыўнае стаўленне да асобы святога Язафата Кунцэвіча. І я доўгі час пад гэтым уплывам думала негатыўна пра Святога Язафата. Аднак даведаўшыся, што гэта толькі адзін пункт гледжання на дзейнасць святога, змяніла сваё меркаванне. Менавіта гэта я і адлюстравала ў сваім апавяданні. Таксама як настаўніцу мяне цікавяць каштоўнасці, зносіны, маўленне сучасных падлеткаў, таму яны і з'яўляюцца галоўнымі героямі твора," – падзялілася сваімі думкамі Яна Барысевіч.



**«Любоў праз Крыж», Аліка Будкевіч (Віцебск, парафія Святога Уладзіслава), І-е месца ў конкурсе "Язафат Кунцэвіч - неВядомы заступнік".**

*С. Марыя Шамовіч BDNP, тэкст і фота*
*Ксёндз Віктар Місевіч, фота*



# Каляндар на снежань

**3 снежня – І Нядзеля Адвэнту**
**6 снежня – успамін святога Мікалая.**
**7 снежня – успамін св. Амброзія, біскупа і доктара Касцёла.**
**8 снежня – урачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.**
**9 снежня – успамін св. Яна Дзідаха Куаўхтлатоацына.**
**13 снежня – успамін св. Люцыі, панны і мучаніцы.**
**11 снежня – успамін св. Дамаса І, папы.**
**12 снежня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Гвадэлупы.**
**13 снежня – успамін св. Люцыі, панны і мучаніцы.**
**14 снежня – успамін св. Яна ад Крыжа, прэзбітэра і доктара Касцёла.**
**21 снежня – успамін св. Пятра Канізія, прэзбітэра і доктара Касцёла.**
**23 снежня - успамін св. Яна Кенцкага, прэзбітэра.**
**25 снежня – урачыстасць Нараджэння Пана.**
**26 снежня – свята св. Стэфана, першамучаніка.**
**27 снежня – свята св. Яна, апостала і евангеліста.**
**28 снежня – свята святых Немаўлят, мучанікаў.**
**31 снежня - свята Святой Сям'і: Езуса, Марыі і Юзафа.**

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – В; 3 – Б; 4 – А; 5 – В; 6 – А; 7 – Б; 8 –А; 9 – А; 10 – В

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рымска-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5768

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2300 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 23.11.2023 г. у 8.00

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь